PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (2152) Год XLII Беласток 10 жніўня 1997 г. Цана 1 зл.

# Хрысціянскіх паховін чакалі паўстагоддзя

Мікола Ваўранюк

**У 1951 годзе на рымска-каталіцкі могільнік у Кліхах прывезлі іх ноччу. Тры драўляныя скрыні касцей, збуцвелай вопраткі, абутку. Гэта тое, што адкапалі на месцы пакутніцкай смерці ў лесе за вёскай Пухалы-Старэ. Закопвалі толькі тыя, што эксгумавалі, без лішніх сведак, без святара. Помнік паставілі дваццаць гадоў пазней. Памясцілі на ім загадкавую пліту: *Tu spoczywa 25 osób mordu reakcyjnego podziemia mieszkańców okolicznych wsi. Cześć ich pamięci!* Ніякіх прозвішчаў.**


*Столькі застаецца ад людзей пасля 50 гадоў знаходжання ў зямлі.*

Раніцай 23 ліпеня гэтага года пад'ехаў на могілкі ў Кліхі, у суправаджэнні паліцыі, рад машын. Прывезлі з сабою труны. Пасля трох гадоў старанняў нарэшце Грамадскі камітэт сем'яў закатаваных вазакоў атрымаў з пракуратуры згоду на перавоз астанкаў блізкіх на вайсковыя могілкі ў Бельску.

Эксгумацыю праводзіць Гарадское прадпрыемства камунальнай гаспадаркі з Бельска і самі сямейнікі забітых. Разбіраюць помнік, раскручваюць мэталёвы плот. Выходзяцца мясцовыя, непакояцца, хто будзе засыпваць ямы, хто прыбярэ друз.

— *Пакінем пасля сябе ідэальны парадак,* — супакойваюць прыезджыя, — *пра ўсё мы паведамілі ксяндзу і касцельнаму.*

— *О, тут ляжаць мае бацька і брат,* — паказвае суседнія магілы немалады жыхар Кліхаў, — *Якраз звальняецца месца і для мяне.*

Зямля пасля дажджоў сырая. Гліна клеіцца да рыдлёвак. На дне выемкі паяўляецца вада. У балоце, крыху глыбей ямы, знаходзяць першыя косці. Становіцца ціха. Выкладаюць іх на цэлафанавыя мяшкі. Лекар Тадэўш Юзвік сартуе: гэта косці сцягна, гэта лыткі, гэта рукі. Паводле іх будзе можна палічыць, колькі асоб захавалі ў магіле. Меншыя косці, як рэбры ці пазванкі, кладуцца асобна.

Людзей найбольш хвалююць чэрапы. Аднак, без лабараторных доследаў ужо амаль немагчыма ідэнтыфікаваць асоб. Ніводзін чэрап не захаваўся цэлым. У многіх відаць дзіры ад куль. Многія праламаныя ў некалькіх месцах або зусім раструшчаныя.

— *Цяпер цяжка пазнаць, каторыя праломы былі прычынай смерці, а каторыя ўзніклі ў час першай эксгумацыі,* — кажа доктар. — *Але з вялікім праўдападабенствам можна сцвердзіць, што забівалі іх у розны спосаб, стрэламі з пісталета і ўдарамі цяжкім прадметам па галаве.*

У адным чэрапе знайшлі цвік і два камяні. Як яны там апынуліся, невядома.

З-пад вялікай бетоннай пліты пасярэдзіне магілы, якой не змаглі рушыць нават адбойным малатком, сталі выцягваць розныя прадметы: кусок пояса з пражкай, запальнічку з гільзы патрона, абутак.

— *У такіх пасталах з гумовай шыны хадзілі чыжаўцы,* — кажа Васіль Якімюк з Падрэчан. — *У майго бацькі былі сшытыя ім самім галёшы. Як яго забралі было мне дванаццаць гадоў, але я гэтыя галёшы пазнаю і праз сто год.* Калі дасталі кавалак тонкай гумы, Васіль Якімюк пазнаў у іх халявы галёшаў: — *Дзесь тут павінна быць яшчэ падэшва.*

І сапраўды, неўзабаве выцягнулі кавалак тоўстай гумы, які дакладна пасаваў на падэшву.

— *Мой дзед быў падафіцэрам у войску Пілсудскага,* — кажа ўнук Хведара Якімюка, — *але гэтым нічога гэта не значыла.*

Абутак Аляксандра Максімюка са Збуча пазнае дачка:

— *Мой бацька насіў валёнкі, якія абкручваў такімі скуранымі халявамі.*

Гэтыя халявы захаваліся.

* * *

Колькі застаецца з чалавека пасля пяцідзесяці гадоў знаходжання ў зямлі? Невялікая купка касцей рук, ног, рэбраў, пазванкоў, чэрап (найбольш трывалымі пасля смерці аказваюцца зубы). Астанкі трыццаці забітых „Бурым” вазакоў памясціліся ў трох трунах.

Доктар Тадэўш Юзвік сцвердзіў, што ў магіле ў Кліхах знаходзіліся астанкі дваццаці пяці чалавек напэўна. А вельмі праўдападобна, што і дваццаці сямі. Няпэўнасць бярэцца адтуль, што шкілеты былі некамплектныя. Адразу ідэнтыфікаваць удалося толькі аднаго, Васіля Бялецкага са Збуча, па крывой косці хворай нагі. Хадзіў ён на кастылях.

— *Бедны,* — уздыхае са слязьмі ў вачах сваячка, — *пры жыцці мучыўся і смерць меў пакутніцкую.*

Каля Пухалаў знайшлі яшчэ косці трох асоб. Такім чынам, лічба забітых вазакоў вырасла з дваццаці дзевяці да трыццаці. Трыццатым быў Рыгор Грыгарук з Волькі-Выганоўскай. Узялі яго на месца фурмана, які, карыстаючыся пажарам вёскі і замяшаннем, уцёк. На перапахаванне прыехала сястра Анна Беляк з мужам і дачкою аж з Торуні.

— *Мама, бедныя, усё верылі, што Грыша жывы,* — плача сястра, — *усё дажыдалі.*

— *Нашай маме сны сніліся,* — кажа

[працяг ☞ 4]


*Гэты чэрап быў моцна раструшчаны.*

# У нумары

# Мы прачыталі

*Памылкова выбраны прэзідэнтам Беларусі былы савецкі камісар А. Лукашэнка знішчыў усе дэмакратычныя асновы толькі што заснаванай новай дзяржавы ды ўвёў таталітарны камуністычны рэжым. Разбоі і катаванні беларускіх патрыятычных дэманстрантаў паліцэйскімі, на службе Лукашэнкі — пераважна расейскай нацыянальнасці — паказвае сапраўдную сітуацыю дружбы паміж двума народамі, беларускім і рускім.*

*Беларусы маюць права мець свайго беларускамоўнага прэзідэнта, а не чужынца, які адкінуў беларускую мову, культуру і векавыя традыцыі нашага народу, а замест іх уводзіць мову і культуру рускага народу.*

*Беларусь пэўна пражыве Лукашэнку, гэтага архітэктара беларускай нядолі. І некалі „Ворганы Беларускай Справядлівасці" будуць расследваць гэтую нацыянальную трагедыю. Тое, што зрабіў Лукашэнка ў дачыненні да незалежнасці Беларусі і беларускага народу ў міжнародным праве называецца здрадаю нацыі, здрадаю краю.*

*Беларус, н-р 445*

* * *

*Aleksander Łukaszenko przejmuje we władanie kolejne nieruchomości w Mińsku — budynek Białoruskiego Liceum Humanistycznego i Dom Literata. To bezprecedensowa, nawet dla reżimu Łukaszenki, akcja wyniszczania białoruskich placówek edukacyjnych, kulturalnych i wychowawczych. Dom Literata jest własnością Związku Literatów Białoruskich. Jego siedziba w ostatnich latach była tradycyjnym miejscem zebrań świadomej narodowo inteligencji i demokratycznej opozycji. Odbywały się tam posiedzenia zdelegalizowanego przez Łukaszenkę parlamentu. Dom Literata uznawany jest za jedną z ostatnich enklaw białoruskiego życia kulturalnego w stolicy. Białoruskie Liceum Humanistyczne ma około 200 uczniów i jest jedyną szkołą w Mińsku, gdzie naukę wszystkich przedmiotów prowadzi się w języku białoruskim. Chociaż Związek Pisarzy jest właścicielem Domu Literata, na mocy dekretu Łukaszenki zostanie on przekazany we władanie Urzędu ds. prezydenckich, którym kieruje Walery Titienkow. Zgromadził on już ponad 200 budynków w centrum Mińska, z wynajmu których czynsze idą na konto Łukaszenki i jego otoczenia. Titienkow powołując się na dekrety Łukaszenki może praktycznie zawładnąć każdą nieruchomością na Białorusi.*

*Gazeta Wyborcza, nr 163*

Краіна Мабуту.

* * *

*Stali bywalcy festynów białoruskich, formalnie organizowanych przez BTSK za dotacje przyznawane na krzewienie kultury białoruskiej przez Ministerstwo Kultury RP oraz rady poszczególnych gmin wschodniej części woj. białostockiego, od dawna zwykli spotykać się z aktywną obecnością na nich posłów SLD. W zasadzie nie ma w tym nic zdrożnego. BTSK jest sojusznikiem wyborczym tego ugrupowania, przewodniczący Jan Syczewski kandydatem na parlamentarzystę, a obecni posłowie SLD z Białostocczyzny też ludzie i zabawić się lubią. Tym bardziej, że w każdej miejscowości działacze BTSK i miejscowi notable reklamują ich jako wielkich przyjaciół Białorusinów i prawosławnych, a co najważniejsze — zaufanych premiera Cimoszewicza. A to pociąga za sobą przyjęcia, którymi nie wzgardziłby najwybredniejszy amator regionalnej kuchni i frywolnych dowcipów.*

*Kurier Poranny, nr 165*

Ёсць надзея, што ў будучым парламенце ўзнікне пасольскі калектыў беларускай народнай песні. Адраджэнне беларускасці пачнецца тады не ў Мінску, а ў Варшаве.

* * *

*Почему вчерашние яростные коммунисты и православные атеисты сегодня так истово крестятся рядом со своими недавними врагами? Цинизм — основная методология послеоктябрьских воспитателей — создателей новой исторической общности — советского народа. Сегодня этим же кнутом вооружены пастыри белорусcов, самого затюканного коммунистической идеологией народа.*

*Народная воля, 11.06.1997 г.*

* * *

*Białoruś to suwerenne i demokratyczne państwo,* — сказаў пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Бурскі.

*Nowe Kontrasty, nr 7*

* * *

*Przyczyną złej pogody i powodzi w części Europy jest rozszerzenie NATO, które zakłóciło spokój duchowi Stalina — uznali astrologowie...*

*Gazeta Współczesna, nr 141*

* * *

*Беларусь, як вядома, не можа астацца на баку расейскіх праблем. Цяпер ідзе там дыскусія: перазахоўваць, ці не перазахоўваць У. Леніна, а калі перазахоўваць, дык як і куды? Тыя беларусы, якіх па-ранейшаму вядуць наперад ідэі правадыра сусветнага пралетарыяту, прапанавалі перанесці маўзалей у Мінск. У адной з мінскіх газет ужо пачалі збіраць подпісы за гэта.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 27*

Калі можам уключыцца ў гэту агульнаславянскую дыскусію, тады прапануем маўзалей перанесці на плошчу побач палаца Лукашэнкі. Астанкі прарока павінны мець добрую ахову і адданага патрыярха побач. Паломнікі з усяго свету мелі б тады блізка да найлепшых гатэляў, якія знаходзяцца ў сталіцы Беларусі. Вернікам Вялікага Ільіча з Беласточчыны было б таксама лягчэй дабрацца ў Мінск чым Маскву, каб пакланіцца гэтай святасці.

# З мінулага тыдня

**Патрыярх Масквы і ўсяе Русі Алексій II** не выключае магчымасці сустрэчы з папам **Янам Паўлам II** пад умовай, што будзе яна добра падрыхтаваная. Патрыярх заявіў, што ён яшчэ не гатовы назваць канкрэтны тэрмін такога спаткання. У чэрвені г.г. патрыярх адтэрмінаваў сустрэчу з папам пад Венай, прызнаўшы яе непадрыхтаванай.

**Міністэрства замежных спраў Расейскай Федэрацыі** заявіла рашучы пратэст паслу Польшчы ў Расеі **Анджэю Залуцкаму** ў сувязі з дэмантажам помніка ўдзячнасці Чырвонай Арміі ў Торуні. Гэты факт расцэньваецца ў Расеі як крайне недружалюбная акцыя, якая выклікае грамадскае абурэнне.

**Мікалай Крывецкі** — кіраўнік Адміністрацыі Свабоднай эканамічнай зоны „Брэст" сустрэўся ў Седльцах з прадстаўнікамі дзелавых колаў Люблінскага, Бяльскападляшскага і Сядлецкага ваяводстваў. Расказаў ён польскім бізнесменам пра эканамічную зону „Брэст", пра неабмежаваныя магчымасці для ўкладання капіталу і атрымання прыбытку. Прадпрымальнікі выказалі жаданне супрацоўнічаць на ўзаемавыгадных умовах.

**Этнографы Беларусі, Польшчы і Украіны** аб'ядналі намаганні ў правядзенні маштабнай і доўгатэрміновай экспедыцыі на Палессе. Разлічана яна на пяць гадоў і мае на мэце комплекснае вывучэнне этнічных і этнакультурных асабліасцей Палесся на пагранiччы Беларусі і Украіны. Ужо выкананы план першага этапа. Даследчыкі быту і культуры палешукоў сістэматызавалі і падрыхтавалі да публікацыі навуковы матэрыял па паўночнай частцы Пінскага, Іванаўскага і Драгічынскага раёнаў.

**К традыцыі** — гэта назва новай адукацыйнай праграмы, якая ў новым навучальным годзе будзе ўкараняцца ў трох садзіках на Беласточчыне. Яе мэта — спыніць працэс адміравання мясцовай традыцыі, развіваць у дзіцячай свядомасці пачуццё тоеснасці з мясцовай культурай і вяртанне старэйшаму пакаленню належнага месца ў супольнасці. Пад наглядам мясовых народных умельцаў дзеці будуць вучыцца спеваў, танцаў, разьбы, ткацтва і ганчарства. Першыя заняткі пачнуцца ў верасні ў прадшколлях: беларускім у Ляўкове Старым Нараўчанскай гміны, польскім у Ясяноўцы і ва ўкраінскай групе ў Бельску-Падляшскім. У праграме пры́ме ўдзел каля 100 дзяцей.

**Back in USSR** — так называўся чатырохгадзённы І Агляд калектываў з Беларусі, які адбыўся ў кавярні „Ратушовая" ў Беластоку. Беластоцкая публіка мела магчымасць паслухаць рок-гурты, якія прымалі ўдзел у „Басвовішчы": „Jungle X-Mas" і „Devotion" з Гродна, „Гай" з Менска, а таксама „Zdrowie na Budowie" з Бельска-Падляшскага.

**Першымі пачалі жніва** ў Беластоцкім ваяводстве сяляне вёскі Заенчнікі Драгічынскай гміны. На думку спецыялістаў, сёлетні плён будзе большы за мінулагодні на 5-8%, а ўраджайнасць дасягне 26 цэнтнераў з гекатара.

**На шашы Сямятычы—Бацікі** грамадзяніну Беларусі, які ехаў на машыне „Опель-кадэт", дарогу заехаў легкавы „Мерседэс", прабуючы прымусіць яго спыніцца. У выніку „Опель" з'ехаў у кювет і разбіўся. Пабачыўшы пашкоджаную іншамарку, злачынцы паехалі далей. Паліцыя маркуе, што хацелі яны ў беларуса адабраць „Опель".



# Весткі з Беларусі

**З'езд ЗБС**

У Менску прайшоў II З'езд беларусаў свету. 150 удзельнікаў з 20 дэлегацый і шматлікія госці цалкам запоўнілі залу Тэатра музкамедыі. Асноўнай тэмай з'езду, як і даклада прэзідэнта ЗБС „Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага стала праблема захавання беларускай прысутнасці у свеце. І хаця ў прывітальным слове Радзім Гарэцкі падкрэсліў, што „Бацькаўшчына" — апалітычная структура, без палітычных абвінавачанняў усё ж не абышлося. Дэлегаты заклікалі дзяржаўныя структуры больш увагі ўдзяляць роднай мове, адраджэнню традыцый будаў. У няпростай сітуацыі выжывання нацыі галоўнае для беларусаў — захаваць мову, — падкрэсліў у сваім выступленні прэзідэнт ЗБС. Пра гэта гаварылі таксама старшыня Рады ЗБС Ганна Сурмач, старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Васіль Еўдакімаў, старшыня ТБМ Генадзь Бураўкін, пісьменнік Васіль Быкаў.

**Не забытае свята**

На працягу шасці гадоў 27 ліпеня — дзень прыняцця Вярхоўным Саветам Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі — адзначалася як галоўнае палітычнае свята дзяржавы. Аднак пасля апошняга лукашэнкаўскага рэферэндуму было яно выкрэслена з афіцыйнага святочнага календара. У апошнюю ліпеньскую нядзелю адзначыць свята вырашылі тры апазіцыйныя партыі. Беларускі народны фронт і Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада сарганізавалі ў Менску вулічнае шэсце пад бел-чырвона-белымі сцягамі і антыпрэзідэнцкі мітынг ля Опернага тэатра, а Аб'ядная грамадзянская партыя наладзіла байдарачны паход па беларускіх рэках.

**Газавыя клопаты**

Расейскае акцыянернае таварыства „Газпрам" 19 ліпеня папярэдзіла кіраўніцтва Беларусі і „Белтрансгаза" аб магчымасці зніжэння паставак прыроднага газу. „Газпрам" гатовы скараціць пастаўкі газу да 50% сутачнага аб'ёму ў сувязі з тым, што „Белтрансгаз" мае вялікую запазычанасць і не выконвае ўмовы заключанага з „Газпрамам" кантракта. На пачатак ліпеня Беларусь аплаціла толькі 50% пастаўленага ёй у 1997 г. расейскага газу. Неадкладна пасля гэтай заявы ў Маскву вылецела беларуская ўрадавая дэлегацыя. На перамовах з кіраўніцтвам „Газпрама" быў складзены графік выплат і плацяжоў за бягучыя пастаўкі расейскага газу і фінансавай запазычанасці Беларусі, якая складае каля 125 млн. долараў ЗША. Ужо ў жніўні на рахунак „Газпрама" паступіць першая частка сродкаў. Дырэктар „Белтрансгаза" Мікалай Мачарнюк сказаў, што беларускі бок гатовы выконваць свае абавязацельствы перад „Газпрамам", для чаго мае намер прыняць жорсткія меры па зборы даўгоў са спажыўцоў газу.

**Кантроль за друкам**

У Дзяржаўным камітэце па друку адбылося першае пасяджэнне кваліфікацыйнай камісіі, якая праводзілася ў адпаведнасці з новым палажэннем аб парадку выдачы і выкарыстанні ліцэнзій на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці. У выніку ні адзін з чатырох суб'ектаў гаспадарання не вытрываў экзаменацыйных патрабаванняў і не атрымаў права на набыццё ліцэнзіі. Галоўныя прычыны адмовы прэтэндэнтам — нізкі ўзровень адпаведных ведаў, некампетэнтнасць у пытаннях заканадаўства ў галіне выдавецкай дзейнасці.

**Татарскі юбілей**

Сёлета Беларусь, Літва і Польшча адзначаюць 600-годдзе пасялення татараў на тэрыторыі гэтых краін. У Беларусі адбылася навукова-практычная канферэнцыя прымеркаваная да гэтай даты, прайшло свята Караван-байрам. Месцам правядзення ўрачыстасцей сталі Навагрудак, Іўе і Смілавічы.

**Айчынны наркабізнес**

Некалі спакойная адносна наркотыкаў Беларусь апошнім часам стала не толькі геапалітычным цэнтрам незаконнага транзіту і абароту наркотыкаў, але і сыравінай крыніцай наркабізнесу. Толькі за тры дні, з 19 па 21 ліпеня міліцыя канфіскавала ў Слуцкім, Менскім і Баранавіцкім раёнах амаль 60 кг галовак маку. 22 ліпеня на адной з кватэр у Кобрыне работнікі міліцыі выявілі 15 кг макавых галовак. У гэты ж дзень у Калінкавічах затрыманы былі два светлагорскія рабочыя, у якіх знойдзена 10,5 кг гэтай сыравіны.

# Зажалі жыта...

Дзед Мікалай з'ехаў на пабочыну. Закруціў лейчыны вакол кланіцы, пераскочыў невялікі прыдарожны роў і топчучы ботамі прарослую крываўнікам траву, пайшоў мяжою паміж хвалюючага калосся даспяваючага жыта. Спыніўся, аглянуўся навокал і выцягнуў рукі, датыкаючы далонямі калосся быццам бы гладзіў галоўку светлавалосага дзіцяці. Потым сарваў некалькі каласоў і доўга расціраў іх у далонях. Перасыпаючы з адной рукі ў другую дзьмухаў на зёрны, якія паблісквалі на сонцы жывым серабром. Расціскаў іх пальцамі, а потым усыпаў у рот і доўга-доўга жаваў, стоячы тварам да сонца. Смакаваў і нешта перадумваў. Урэшце павярнуўся і пачаў вяртацца да фурманкі.

— Можна зажынаць! — сказаў пераступаючы парог хаты і палажыў на стол прынесенае калоссе.

Неўзабаве ўсе ўжо рыхтаваліся да пачатку жніў — абшывалі палатном каблукі, зубрылі сярпы да паляніцы, а па нейкім часе вёска аж заносілася ад кляпання кос. На свой спосаб нагадвала яна сажалку, у якой перакліквaліся жабы.

Спрыяльнымі днямі для зажынак былі серада і субота. Таксама як пры сяўбе. Дні гэтыя лічыліся днямі прысвечанымі Божай Маці. Сёння людзі не адводзяць гэтаму належнай увагі, але даўней жніво было святасцю з многімі абрадамі і звычаямі, якіх строга прытрымоўваліся. Абыякавасць магла прынесці няшчасце.

Сёння гэта ўжо як цікавінка, як вобраз даўняга быту нашых продкаў, захаваны ў запісах этнографаў, але раней, менавіта на Падляшшы ў ваколіцах Бельска, Браньска і ля Сямятыч быў звычай калектыўных зажынак. Найстарэйшы ў вёсцы гадамі гаспадар адзяваў белую вопратку і ішоў на чале ўсіх жыхароў на жытні палетак, дзе супольна маліліся. Пасля малітвы зжынаў сярпом першую жменю на сваім загоне. Потым усе разыходзіліся — кожны на сваё поле.

Зажынанне паводле перакананняў мела вялікі ўплыў на жыццё чалавека, рашала аб яго здароўі і дабрабыце. Здавалася, што няма ў гэтым нічога незвычайнага — простае зрэзанне жмені каласоў, але чалавек верыў, што абыякавы падыход яго да жыта, якое з'яўляецца крыніцай хлеба, а хлеб — асновай жыцця, абыякава і адцісненца на ягоным быце. Таму жнеі (да іх належаў у асноўным гэты абавязак асабліва тады, калі аб жнівах рашаў серп), ідучы першы раз на загон, бралі з сабой кавалак хлеба і вяночак свянцонага на Зелянец спарышу (мясцовая назва драсёну ў ваколіцах Бельска і Нарвы, зялёнай невялікай расліны з дробнымі прадоўжастымі лісточкамі, якая расце на панадворках і сцежках), каб праца спорылася. Абраду зажынак людзі адводзілі вялікую ўвагу. Яны прарочылі далейшы ход жніў. На вялікіх панскіх гаспадарках зажынала тая жанчына, якая ўсё жніво будзе прыдаваць рытм працы. Звалі яе „паступлянкай". Калі серп падмяніла каса, зажынкі пачынаў мужчына. Быў гэта рослы, здаровы мужык, які меў лёгкую руку. У іншым выпадку праца ішла цяжка, а жнеі скардзіліся на боль плячэй і рук. Ніколі не пачынала па той прычыне жанчына цяжарная. Жніва ж некалі працягвалася тыдняў два-тры.

Першыя дзве жмені зжатага жыта крыжавалі з сабой у выглядзе літары „Х" і клалі на іх, пад іх, ці побач іх прынесены з дому хлеб. На Гродзеншчыне з першых жменяў вязалі снапок, званы там „гаспадаром". Не быў гэта звычайны сноп, але падвойны, злёгку скрыжаваны ў выніку пятлічнага вязання. Побач яго таксама клалі хлеб. Магчыма, што скрыжаваныя жмені жыта не мелі нічога ў сваіх пачатках з хрысціянствам, а хлеб быў формай першапачатковай ахвяры. Сімвал крыжа быў вядомы намнога раней да Хрыста. Снапок гэты называлі таксама па-рознаму — „дзядок", „дзедушка", „дамавік". Закончыўшы працу, вечарам забіралі гэты снапок дамоў і ставілі ў культавым куце пад абразамі. Як жа нагадвае гэта каляднага „госціка". У беларускіх абычаях снапок гэты сімвалізаваў апякунскага духа збожжа, якому, каб здабыць прыхільнасць, ахвяравалі хлеб. І ў гэтым ёсць многа праўды, калі возьмем пад увагу факт, што ў беларускай народнай культуры паяўляецца апякун хаты пад памянёнымі назвамі. У некаторых мясцовасцях на Падляшшы у першы зажынальны снапок клалі камень велічынёй кулака. Матыў каменя паявіцца пазней, пры звозцы. Праўдападобна, і ў адным, і ў другім выпадку, была гэта форма забеспячэння ад мышэй, ворагаў селяніна. Відаць, таму першы сноп, зжаты падчас зажынак, клалі першым разам з каменем у стадолу звозячы жыта з поля, каб мышы паламалі зубы. Першыя зжатыя сцяблінкі перавязваліся ў поясе, каб не ламала ў пазваночніку. Потым гэтае пярэвясла завязалі на прыдарожным крыжы, што мела ўзмоцніць гэтую магічна-лячэбную працэдуру. Так было ў Доктарцах і Завыках. У Ваневе і Вольцы вяртаючыхся жняцоў аблівалі вадою дзеля паспяховасці ў працы. Найчасцей рабіла гэта гаспадыня.

Даўней сярод жняцоў быў звычай „вязаць пярэвяслам" людзей прыходзячых на жніўны палетак. Найчасцей былі гэта гаспадар або гаспадыня. З гэтым спалучаўся „выкуп". Шчодрых расхвальвалі, скупых высмейвалі. „Вязанне" адносілася толькі да сялян, шляхта на гэта не дазваляла. Каб развязацца, трэба было ўкленчыць або схіліцца, а тая лічыла гэта для сябе ганьбай. Перад шляхтай кідалі „пояс", інакш пярэвясла.

Чалавек стараўся абяспечыць свой быт усялякімі спосабамі і ва ўсім дашукоўваўся зману. І так — знойдзены блізнячы колас лічыў ён прагнозам асабістай паспяховасці. Цэлы дзень насіў яго з сабою, а вечарам клаў за ікону свайго патрона. Дзяўчыне падвойны колас прарочыў хуткае замужжа, жанчыне — цяжарнасць. Пільнавалі, каб не пераходзіць жняцам дарогу, каб тыя не калечыліся. Па гэтай прычыне не падавалі сярпа з рук у рукі, але кідалі яго на зямлю, каб другі мусіў схіліцца. Вечарам, зыходзячы з поля, на недажатым загоне крыжавалі з сабою дзве жменькі і прыціскалі каменнем. Інакш выбіла б навальніца. Не пакідалі на загоне пустога пярэвясла. Мусілі палажыць на ім хаця некалькі сцяблін. Сімвалізавала гэта крыж, які адганяў злое. Нельга было пакідаць нанач навостраную касу, якой не зрабілі хаця б аднаго закосу, каб чорт ёю не карыстаўся. Касілі таксама толькі да заходу сонца. Лічылі, што скошанае пазней і так змарнее — калі не згніе, то з'ядуць яго мышы.

Жніва складалася з трох этапаў: зажынак, жніва ўласцівага і дажынак, з якімі таксама звязана многа звычаяў і магіі, забеспячаючых селяніна ад няшчасця.

**Мірон Харашуха**

# Гэтага ўжо немагчыма сцярпець

**Пры ваяводскай дарозе ў Гайнаўку, 5 кіламетраў ад Орлі, распаложаны вёскі Шчыты-Навадворы і Шчыты-Дзенцялова. Праблем у 229 жыхароў гэтых вёсак многа, але ўстановы гміннага і вышэйшага ўзроўняў не ўдзяляюць ім належнай увагі.**

* * *

— Я кабылу аддаў, калі праводзілі водаправод, — кажа адзін з сялян. — Тады каштавала яна 60 тысяч, а на сённяшнія грошы было б з тры тысячы.

— А я цялушку за 44 тысячы..., — дадае другі аднавясковец. — Людзі далі грошы і самі, чынам рабілі.

— Апошнім часам СКР ужо некалькі разоў водапровод перакрываў і мне даводзілася з далёкай студні па дваццаць вёдраў вады ў дзень насіць для жывёлы, — наракае Марыя Жук. — Калі ў красавіку перакрылі ваду на ўвесь дзень і ноч, людзі гэтага не сцярпелі. Назаўтра перапынілі старшыню кааператыва, калі той раніцай ехаў на ферму, і такіх далі яму „ёбаў", што адразу ваду пусцілі.

— Вада ў нас няякасная — смярдзіць і мае чырвоны колер. СКР бярэ грошы, але ваду не фільтруе. Спецыялісты з санэпідэмстанцыі выявілі, што ў вадзе замнога жалеза. Відаць, трэба нам будзе старацца браць ваду з водаправода з Орлі або Бельска, — кажуць жыхары абедзвюх вёсак.

З боку вёскі Шчыты-Навадворы стаіць СКРаўская свінаферма, з якой два-тры разы ў тыдзень вывозяць цераз усю вёску гнаявую жыжку. З няшчыльнай асенізацыйнай бочкі амаль заўсёды выцякае струменьчык смярдзючай вадкасці на вуліцу. Калі пойдзе дождж, смурод становіцца невыносным нават для мужыцкага носа.

* * *

— Заплаціш грошы за білет, а шафёр вязе цябе ў поле, кіламетр за вёскай спыняецца, — скардзяцца шчытаўскія пасажыры жалезнадарожнага аўтобуса.

Калі ў 1995 годзе ПКП закрыла чыгуначную лінію з Бельска ў Гайнаўку, то ў месца паяздоў увялі тры аўтобусы. Але ад гэтага няма вялікай карысці, бо хаця жалезнадарожныя аўтобусы едуць цераз вёску, аднак прыстанак ім зрабілі кіламетр за сялом, у чыстым полі. Жыхары Шчытоў пісалі ў гэтай справе дырэкцыі ў Ольштыне, а пасля скардзіліся і ў Варшаву, аднак нічога не дабіліся. У вёсцы больш за дзесяць чалавек маюць чыгуначныя білеты (былыя работнікі і іх сем'і). Гэтым транспартам карыстаюцца таксама інваліды і рабочыя, якія даязджаюць на працу. Людзі мяркуюць, што ПКП хоча такім чынам знеахвоціць патэнцыяльных пасажыраў да свайго транспарту, каб потым з-за браку кліентаў ліквідаваць жалезнадарожную аўтобусную лінію. Сёлетняй зімою было так, што калі не прыехаў аўтобус ПКС (на дварэ было тады -25°C), чыгуначны аўтобус не спыніўся, каб забраць акалелых пасажыраў канкурэнтнай фірмы.

* * *

У палове ваяводскай дарогі са Шчытоў у Орлю шафёраў чакае небяспечны прамавугольны паварот. Ужо дваццаць гадоў таму збіраліся выпраміць яго, але дарожныя майстры толькі высеклі прыдарожныя таполі і пакінулі глыбокія ямы. Цяпер, калі гміна рамантавала дарожнае палатно, сам паварот і 200 м каля яго не асфальтавалі, толькі яшчэ больш зрылі і пасыпалі жвірам. Зараз там адны калдобіны, праз якія штодзённа праязджае 20 аўтобусаў з пасажырамі. А войт не звяртае ўвагі на праблему. У Шчытах у гэтым годзе памёр радны і жыхары абедзвюх вёсак не маюць цяпер у радзе свайго прадстаўніка, аднак гміна на намесніцтва не згаджаецца.



*У гэтым доме жыў інвалід.*

* * *

— Вясною або калі пойдзе зліўны дождж, я і мае суседзі, — гаворыць Мікалай Сахарэвіч, — не можам выехаць з панадворка, бо вада сплывае да нас з пахілай вуліцы і палёў. А на вуліцы водаадводны роў завалены, уязныя масткі папсаваныя і таму нас падтаплівае. Таксама і на полі масткі парабілі без апораў, ды ўсё развалілася. Не дбае Гмінная водная суполка пра шчытаўскіх сялян.

— Вуліца ў вёсцы — 600 метраў — патрабуе неадкладнага рамонту. Цяпер тут адны калдобіны, праз якія ні праехаць, ні прайсці, — кажа Марыя Жук. — А мы кожны дзень па гэтай дарозе валачэм па 50 літраў малака.

* * *

Пасярэдзіне вёскі, у бакавой вулачцы жыў у нечалавечных умовах доўгія гады Анатоль Шарала — саракагадовы інвалід III групы. Калі страха і столь заваліліся, хаваўся пад кавалкам шыферу.

— Быў бы чалавек замёрз, — гавораць жанчыны, — каб не людзі са Шчытоў. Зімою мужчыны перавезлі санямі хворага інваліда ў пустуючы школьны будынак. Жыве ён там да сённяшняга дня.

Хаця ў будынку няма электраэнергіі, аднак бедалага мае дах над галавой. На жыццё зарабляе ён зборам бутэлек, грыбоў, просіць есці ў людзей. Хаця чалавек галадуе, у Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі не звяртаецца. Баіцца, каб яго не выкінулі са школьнага будынка.

— Шарала атрымоўваў ад нас грашовую дапамогу ў асенне-зімовыя перыяды, — сказалі мне ў асяродку сацыяльнай дапамогі. — Сёлета ён да нас за дапамогай не звяртаўся. Мае III групу інваліднасці, збірае грыбы і слімакі. Вядома нам, што ён незаконна ўвайшоў у школьны будынак і нават не напісаў прашэння.

* * *

Гаворыць солтыс (з самым вялікім стажам у гміне) Павел Бяроза:

— Выконваю абавязкі солтыса Шчытоў-Навадвораў з 1961 года. Даўней, хаця менш было машын. мы многа рабілі грамадскім чынам. Цяпер гміна мае ўсялякія машыны і грошы, бо людзі плацяць высокія падаткі, аднак дабіцца там нечага вельмі цяжка. Калі станеш чаго патрабаваць, зараз становішся ворагам.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Беласточчына як Прыднястроўе

## або Страсці вакол З'езду

II З'езд беларусаў свету павіс у паветры напярэдадні назначанай даты нарадаў. З'езд павінен пачацца ў суботу, 26 ліпеня, але ў пятніцу аказалася, што Тэатр музычнай камедыі ў Мінску, якога залу зняло пад з'езд Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына", не адпавядае нормам супрацьпажарнага забеспячэння. Вядома, ніхто ў такую прычыну адмаўлення залы не паверыў і ў свет пайшла інфармацыя аб спробе сарвання з'езду.

Пад вечар улада адумалася і раніцай у суботу з'езд пачаў працаваць у раней назначаным месцы. Тым не менш, „супрацьпажарная" мітусня настолькі ўзлавала ўдзельнікаў з'езду, што свістамі і воклічамі „ганьба" не дазволілі зачытаць пасланне прэзідэнта Лукашэнкі. Усё-такі прэзідэнцкая адміністрацыя не здалася і пачала закулісную працу над выбранымі ўдзельнікамі з'езду. Паволі пачала фармавацца плынь апраўдання прэзідэнта. Увайшлі ў гэтую плынь і прадстаўнікі БГКТ, якія ў сіле поўнага аўтобуса прыбылі на з'езд. Асаблівую славу прыдбала сабе сп. Ніна Цыванюк, якая выступіла ў суботу па Беларускім тэлебачанні з крытыкай паводзін удзельнікаў з'езду падчас зачытвання прэзідэнцкага паслання. Гэтая ж бойкая жанчына ў нядзелю дала адпор каталікам, знаходзячы апанента ў асобе уніяцкага святара а. Яна Матусевіча.

Ад імя каго з вядомых людзей беларускай культуры выслухаў я дакоры ўбок беластачан і разгубленыя пытанні, у чым тут справа. Наогул, Беласточчыну пачалі раўняць з Прыднястроўем, якога прадстаўнікі вылучаліся з ліку ўдзельнікаў З'езду тугой па колішняй „вялікай радзіме". Я нават пачуў, як ад'езд беластоцкага „Аўтасана" хтосьці пракаментаваў: „Паехала Прыднястроўе". Каб толькі гэты каментатар быў фальшывым прарокам.

З суботняга вечара некаторыя ўдзельнікі пачалі разважаць: ісці ці не ісці на сустрэчу з прэзідэнтам Лукашэнкам. Запрашэнні з'явіліся ні адсюль ні адтуль. Як можна было пачуць, некаторыя дэлегаты з абшару колішняга СССР хадзілі раней на сустрэчу з палкоўнікам савецкага КГБ, сёння віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным. Хто пайшоў, гледачы БТ маглі пабачыць у панядзелак вечарам.

Іншая частка ўдзельнікаў, таксама па-за праграмай З'езду, далучылася да шэсця, арганізаванага апазіцыяй з нагоды скасаванага прэзідэнтам Дня Незалежнасці. Каля 5 тысяч дэманстрантаў прайшлі з плошчы Якуба Коласа пад Оперны тэатр. Шэсце адбывалася спакойна, хаця ўдзельнікі без дазволу ўлад выйшлі на вуліцу (у Мінску звычайна дазваляюць пратэставаць на тратуары). Большая частка шэсця адбылася ў парку. Некаторыя гаварылі: у кустах, а іншыя пыталіся рытарычна: колькі яшчэ так будзем хадзіць. Лібералы пусцілі на воды Свіслачы некалькі малых караблёў з бел-чырвона-белымі сцяжкамі, але падуў вецер і караблі вывернуліся.

Ля Опернага тэатра прамовілі прамоўцы, заспявалі спевакі, запушчаны быў паветраны шар з бел-чырвона-белым сцягам і спалены аграмадны павук на павуцінні, які сімвалізаваў нямодную ўладу. Канцэрт рок-гуртоў не адбыўся, паколькі ад ранку „прапаў" электраток. Цікава было паглядзець за стракатым складам мітынгоўцаў. Былі тут звычайныя „нацыяналісты" з рознага роду бел-чырвона-белымі ўпрыгожаннямі: майкамі, шапкамі і парасонамі. Сярод іх красаваліся рокеры, металісты і г.п. у чорных майках з назвамі ўлюбёных гуртоў. Увагу прыцягваў а. Пётр з Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Аказваецца, што ўжо ў Беларусі ёсць і такая царква, ды не толькі ў Сёмкавым Гарадку (непадалёк Менска), адкуль прыехаў гэты праваслаўны святар. Пастар Ліпань ад рэфармаваных евангелікаў (кальвіністаў) прыехаў на веласіпедзе і пачаў дакараць прысутных у тым, што абагаўляюць нацыю і сапраўды ў нічым не лепшыя за тых, якія шпацыруюць па парку па-за нацыянальнымі прычынамі. Увагай мітынгоўцаў ён не карыстаўся.

Толькі як удзельнікі мітынгу пачалі разыходзіцца, вядомыя службы пачалі хапаць выбраных у машыны, нават падлеткаў. Адзін газік заехаў нават пад рэстаран „Кветка-папараць", у якім удзельнікі з'езду святкавалі заканчэнне нарадаў. Кажуць, міліцыя заехала з намерам хапануць аднаго з завадатараў шэсця, які банкетаваў сярод беларусаў свету.

II З'езд згаданых беларусаў адбыўся. Выбраны былі нанава прэзідэнт ЗБС „Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі, перавыбраны Вялікая і Малая рады. Старшынёй Рады застаецца Ганна Сурмач. Такім чынам улады „Бацькаўшчыны" могуць лічыць з'езд сваім поспехам, бо згуртаванне можа надалей працаваць згодна са сваім статутам. Але наўрад ці на спакойную працу дазволяць улады Рэспублікі Беларусь. Відаць, рацыю мелі амерыканскія беларусы, якія адмовіліся прымаць удзел у мерапрыемстве, праводжаным у такіх палітычных абставінах.

**Алег Латышонак**

*Фота Міры Лукшы*



*Дэманстрацыя з нагоды Дня Незалежнасці — скасаванага прэзідэнтам свята.*

# II З'езд „Бацькаўшчыны" ў тэлебачанні РБ

28 ліпеня 75 удзельнікаў II З'езду беларусаў свету падалося на сустрэчу з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Прэзідэнцкае тэлебачанне перадало абшырную справаздачу з гэтай сустрэчы. Матэрыял са З'езду, адпаведна падрыхтаваны спецыялістамі па прапагандзе, дэманстраваўся толькі 2 мінуты. Замежных гасцей Лукашэнка прывітаў на беларускай мове, перапрасіў за тое, што „беларускія нацыяналісты" аб'явілі пра сваю прысутнасць падчас першага дня нарадаў, абяцаў, што праз чатыры гады, на наступнай сустрэчы ўжо будзе поўны парадак. Яшчэ раз расказаў, як „фашистские" сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня — па волі „беларускага народа" былі адкінуты і як пацярпела маральнае паражэнне „г.зв. дэмакратычная апазіцыя". Прэзідэнт праінфармаваў дарагіх гасцей пра сваю адданасць для беларускай мовы і культуры, пасляховае развіццё беларускай эканомікі і галоўныя прынцыпы інтэграцыі з Расіяй. „Нацыяналісты за долары, — сказаў Лукашэнка, — выступаюць супраць свайго прэзідэнта і імкнуцца зацягнуць Беларусь у НАТО". Прысутныя словы прэзідэнта РБ прывіталі бурлівымі воплескамі.

Пасля Лукашэнкі голас узяў старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, які не менш эмацыянальна чым прэзідэнт Беларусі выказаў сваё абурэнне паводзінамі „нацыяналістаў".

Можна толькі дадумвацца, як адчувала сябе беларуская інтэлігенцыя, якая ўжо тры гады змагаецца з таталітарным рэжымам Лукашэнкі. Прэзідэнцкае тэлебачанне ў знакаміты спосаб паказала, што беларусы замежжа таксама падтрымліваюць „усенароднаабранага". Пасля Я. Сычэўскага выступілі нейкія „чарнасоценцы" з Прыднястроўя, якія за інтарэсы рускай імперыі змагаліся з малдаванамі, пасля госці з Эстоніі, Расіі, Аўстраліі. Паводле беларускага тэлебачання, удзельнікі II З'езду беларусаў свету поўнасцю падтрымалі палітыку Лукашэнкі.

**(ям)**

# Хрысціянскіх паховін чакалі паўстагоддзя

[1 ☞ праця̆г]

сястра шаснаццацігадовага Алёшкі Галёнкі, — *што ён дзесь жыве, што дзесь у Расеі, у Баку. Так і не дачакалі.*

Людзі хапаліся за крышынкі надзеі. Хадзілі да варажбітоў. Анастасія Хвашчэўская з Краснага Сяла чула стук у дзверы:

*— То ён, бедны, прыходзіў, мой муж. Такі добры быў... І за што яго...*

* * *

Хрысціянскага пахавання чакалі яны больш за пяцьдзесят гадоў. 25 ліпеня ў бельскай Свята-Міхайлаўскай царкве літургію і надгробнае адпяванне ўзначаліў архіепіскап Сава.

*— Ніхто не мае права забіраць другому чалавеку дадзенае Богам жыццё,* — сказаў у пропаведзі ўладыка. — *А тут так люта закатаваны былі, мы мусім гэта выразна сказаць, ні ў чым невінаватыя людзі.*

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*



*Астанкі сабралі ў тры труны. Памаліўся над імі а. Яўген Неліпінскі.*

*Ні ў царкве, ні ў пахавальным шэсці, ні на вайсковых могілках не было камбатантаў Polski Podziemnej, хаця інфармацыя аб пахаванні пайшла да сямі ветэранскіх арганізацый. Ніводная з іх не прыслала хаця б сімвалічнага вянка. Ніводзін каталіцкі ксёндз не аб'яднаўся ў экуменічнай малітве за душы нявінных ахвяр.*

*Затое ў апошні час надзвычай актыўна сем'ямі закатаваных вазакоў сталі апекавацца сацыял-дэмакратычныя палітыкі. Сярод іх людзі, якія былі высока ў палітычнай паліцыі камуністычнага рэжыму.*

*Што яны рабілі ўсе тыя гады, калі ў іх руках была ўлада? Калі мелі доступ да архіваў? Чаму месца злачынства і перапахавання ў Кліхах стала вядома сем'ям толькі ў 1994 годзе?*

*Чаму пракурор Вальдэмар Манкевіч з Камісіі па даследаванні злачынстваў супраць польскага народа можа цынічна тлумачыцца па радыё, што так доўга адсылаў сямейнікаў ахвяр ні з чым, бо тыя — простыя людзі — не ведалі адпаведных працэдураў? А на могілках у Кліхах прытваряцца наіўнай паненкай, якая нічога не ведае і нічога не разумее. Няўжо сапраўды пану пракурору невядома, хто забіў гэтых вазакоў?*

*Баюся, што косці бедных, ні ў чым невінаватых беларускіх сялян, нават пасля пяцідзесяці гадоў ад смерці, нават пасля хрысціянскага пахавання, не будуць мець спакою. Выклікаюць яны — пасля гадоў замоўчвання — занадта жывыя страсці, каб не знайшліся ахвотныя збіць на гэтым палітычны капітал.*

**Мікола Ваўранюк**

# Былі экзамены

Час плыве і ніхто не можа яго стрымаць. Як маланка мінаюць маладыя, бесклапотныя гады. Чалавек набывае вопытнасць, веды, умеласць жыцця ў нялёгкіх умовах сучаснага свету. Ці гэтага ўсяго вучыць школа? Напэўна не. Малады чалавек у школе можа атрымаць вялікую колькасць кніжных ведаў, якія толькі ў нязначнай ступені патрэбны яму ў дарослым жыцці. Сапраўдную вопытнасць дае жыццё, якое з'яўляецца найцяжэйшай школай, ад якой нельга ўцячы. Ад самых малых гадоў яно вучыць самастойнасці і адказнасці.

Аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя праўды, вядомыя ўсім ад вякоў, кожны год прыходзіць такі час, калі на першае месца стаўляецца колькасць і якасць кніжных ведаў, якія малады чалавек здолеў прысвоіць сабе на працягу некалькіх гадоў навукі ў сярэдняй школе. Гучна гэты час называюць экзаменамі на атэстат сталасці. Ці гэтыя некалькі экзаменаў сапраўды сведчаць аб сталасці чалавека? Думаю, што кожны, хто перайшоў гэту эстафету, згодзіцца са мною, што немагчыма пры дапамозе такіх экзаменаў праверыць ступень дарослага матурыстаў. Сучасныя экзамены — гэта толькі яшчэ адна, крыху большая кантрольная. Польская матура дае толькі магчымасць прыступіць да ўступных экзаменаў у вышэйшыя ўстановы. Некалькі гадоў я прыглядалася збоку на матуральныя экзамены. Сёлета мне самой прыйшлося гэта перанесці. Якія рэфлексіі прыйшлі ў сувязі з гэтым? Думаю, што гэта толькі дадатковы стрэс, а вынікі экзаменаў не заўсёды адлюстроўваюць веды вучняў. Здаецца, што гэта звычайны выпадак, шчаслівае здарэнне. Камусьці ўдалося спісаць, трапілася адзіная тэма, на якую ён што-колечы ведаў — гэта нярэдкія выпадкі. Працы ацаняюць настаўнікі з гэтай самай школы. Яны таксама хочуць пахваліцца добрымі вынікамі сваёй працы. Больш аб'ектыўнымі з'яўляюцца напэўна ўступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Можа гэта абагульненне, таму што штораз часцей і галасней гаворыцца аб карумпаванасці гэтых экзаменаў. Аднак на шчасце гэта маргінальная з'ява і большасць маладых людзей пападае на вышэйшыя ўстановы невыпадкова, а дзякуючы сваім ведам.

Сягоння я магу параўнаць абодва экзамены: матуральны і ўступны на падставе свайго вопыту. Папраўдзе, гэта цяжка параўнаць, таму што яны падобныя толькі з назвы.

Паколькі на матуры побач сядзяць сябры, на якіх заўсёды можна спадзявацца, то ўжо на ўступных кожны, хто сядзіць каля цябе з'яўляецца сапернікам, які, магчыма, стараецца аб адно і тое ж самае месца. Чым больш кандыдатаў на адно месца, тым большая варожасць. Здараюцца выпадкі, што сябра сябру дрэнна падказвае. Нікому нельга верыць. Сапраўднае жыццё, якое напамінае змаганне пячорных людзей за выжыванне. Павярхоўная зычлівасць і ўсмешка цераз зубы — гэта ўсё, чаго можа спадзявацца на экзаменах малады чалавек. Гэта сумная рэчаіснасць, але сапраўдная. Для некаторых гэта першая сустрэча з цвёрдымі канонамі жыцця.

Можа гэта крыху крайняя сітуацыя, можа не ўсюды так ёсць, але хачу звярнуць увагу на штосьці, што здараецца не так зусім рэдка. Я сама бачыла такую сітуацыю і таму ў мяне ёсць права, а нават абавязак перасцерагчы перад гэтым і падрыхтаваць на такую магчымасць малодшых сяброў. Я сама не вельмі ў гэта верыла, калі так гаварылі настаўнікі. Толькі калі я сама гэта пабачыла — паверыла. Сягоння я больш вопытная, крыху дарослейшая. Тое, што я пабачыла, пазбавіла мяне дзіцячай наіўнасці, асабліва калі паглядзела на амаль тысячу маладых людзей, якія таксама як я хочуць стаць журналістамі. Пашанцаваць магло толькі сямідзесяцці з іх. Хто гэта будзе — вялікая загадка, сапраўдная латарэя. Патрэба толькі крыху шчасця, многа ведаў (або наадварот). Толькі ў час экзамену я зразумела, што саміх ведаў мала. Калі не ўсе, тады напэўна большасць моладзі, якая прыступала да гэтага экзамену, мела многа ведаў, аднак трэба было ўмець іх „прадаць". Атмасфера ў вялікім зале забівае веру ў свае магчымасці нават у моцных асоб. Слабыя не маюць тут чаго шукаць. Экзамен — пагоня за марамі, якіх здзяйсненне, ці можа яго пачатак, гэта дастацца на гэты жаданы напрамак студыяў. Сны аб кар'еры, аб добрай працы становяцца менш рэальнымі, калі глянуць на гэты тлум.

У такім натоўпе людзей спісваць — гэта не праблема, але каму верыць? Найлепш нікому. Гэта сапраўдныя джунглі, у якіх трэба самому пільнавацца і найлепш нікому не дапамагаць. Нельга спадзявацца на этыку, ці „чалавечнасць" сябра, які сядзіць побач. Экзамен — гэта вайна, у якой кожны змагаецца з кожным.

Але гэта адзін бок медаля, цямнейшы бок жыцця. У час экзаменаў можна пазнаёміцца з цікавымі і вясёлымі людзьмі. Адбываюцца першыя, яшчэ не зусім студэнцкія імпрэзы.

Нягледзячы на ўсе перашкоды і складанасці, думаю, варта спрабаваць сваіх сіл на экзамене. Перад гэтым трэба крыху падрыхтавацца і не толькі паўтараць школьны матэрыял. Перад усім патрэбна псіхічная падрыхтоўка, каб ніпто і ніхто не перашкодзіла паказаць веды. Крыху веры ў сябе і свае сілы і кожны можа стаць студэнтам. Мне ўдалося, хаця я яшчэ не да канца магу ў гэта паверыць. Веру, што сама магу здзяйсняць свае мары. Думаю, што гэта магчыма кожнаму, трэба толькі хацець і... крыху папрацаваць, бо самім „хаценнем" нямнога можна зрабіць. Спрабуйце і паверце ў сябе. Жадаю поспехаў.

**Катажына АЎСЯЙЧУК,**
**будучая студэнтка**
**факультэта журналістыкі**
**Варшаўскага універсітэта**

# Пяць коней

Вуліца ў Старой Луплянцы, што непадалёк Шымак у Міхалоўскай гміне, пуставатая — не толькі з увагі на малалюднасць, але перад усім з увагі на вельмі прарэджаную забудову. Ля дома, што побач школьнага, апусцелага — як мне здалося, пляца, спатыкаю пажылую жанчыну. Заводжу гутарку пра школу.

Школу закрылі тут нейкіх восем гадоў таму. Пуставала яна так нейкі час, за які разбазарылі з яе, што толькі можна было выдзерці з электрычнага і гідраўлічнага абсталявання. Глыбінная студня тут была. Пасля, каб папоўніць развалочанае, зрабілі шыкарны рамонт, які доўжыўся аж пяць гадоў. Зрабілі тады тут зубалячэбны кабінет. Прыехаў дантыст, пабыў тут два гады і выехаў. А з будынка, так як і раней, зноў усё павырывалі і расцягнулі. А даўней жа тут такую школу-тысячагодку паставілі, што нават з Варшавы безупынна прыязджалі глядзець яе, і ў газетах пра яе толькі пісалі. Кіраўнічка была такая, што ўвесь пляц ад школы да вуліцы кветкамі высаджвала, і вучні тыя кветкі даглядалі. Такая прыгажосць была! Не нагледзіцца... А як калісь тэлевізар купілі, то кіраўнік загадваў вясковым гледачам разбувацца, каб у абутку па школе не хадзіць.

Няма ўжо ў Старой Луплянцы дзяцей. Няма ніводнага трактара. Яшчэ ёсць пяць коней, але ніхто з вяскоўцаў не абрабляе ўжо зямлі. На маё пытанне, ці ўся луплянская зямля ляжа аблагом, атрымоўваю адказ, што гаспадараць на ёй яшчэ адзін з Юшкавага Груда і адзін з Адрынок.

Мая субяседніца жыве адзінока, удавою. Муж яе быў калісь солтысам, а цяпер і солтысам у вёсцы некаму быць; солтыс у Новай Луплянцы. У хаце астаўся тэлефон, хацела яго купіць і на ўласнасць перапісаць, але пошта чамусьці не згаджаецца. Дзеці паабсталёўваліся ў Беластоку, паатрымоўвалі кватэры, але не жывуць ў іх — навыязджалі ўсе за граніцу. Адна дачка ў Амерыцы, і другая да яе паехала, але будзе вяртацца, бо ў Амерыцы ёй не спадабалася. Вернецца да мужа, які цяпер разам з яе братам у Грэцыі; у Грэцыі лепей, чым у Амерыцы. Дзеці намаўлялі маці, каб кідала Луплянку і ў Беласток пераязджала — там жа тры кватэры пустыя. А навошта туды мне ехаць, кажа бабуля, я тут сабе печку напалю і добра мне.

Развітаўся я з жанчынай, якой дзеці пакінулі пустым роднае гняздо і разляцеліся па шырокім свеце. Ці думалі яны калісь, бегаючы побач школьных кветак, што пазней нават не захочацца ім і глянуць у той бок...

На агромным, шчыльна абгароджаным школьным пляцы з боку вуліцы не растуць ужо кветкі. З боку поля стаяць дрэвы і пасвіцца некалькі авечак. І ціш тут у вушах якая, здалёк ад усялякага гоману. А перад вачыма — прамінанне.

У Луплянку жвіроўка толькі з боку Шымак. Ёсць яшчэ і „ваяводскія" (так значацца на карце) дарогі ў Падазераны і Лявонавічы, але па іх можна ездзіць толькі вярхом — у вёсцы яшчэ пяць коней.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Наступ на ліцэй

Прэзідэнт Лукашэнка выдаў распараджэнне ад 1 ліпеня перадаць Упраўленню справамі Прэзідэнта шмат будынкаў у Мінску, у тым ліку Дом літаратара і будынак Беларускага гуманістычнага ліцэя. Згаданы ліцэй — гэта адзіная ў свеце навучальная ўстанова такога тыпу, дзе ўвесь навучальны і выхаваўчы працэс вядзецца на беларускай мове. Цяпер існаванне ліцэя апынулася пад пагрозай. Настаўнікі, бацькі і самі вучні адстойваюць сваю школу ўсімі сіламі. Гутарым з **Віктарам МУХІНЫМ** — старшынёй Рады навучэнцаў ліцэя.

***— У каторым класе вучышся?***

— Я на 4-м курсе, значыць, у 11-м класе. У ліцэі 4 курсы, паступаецца пасля заканчэння 7 класа.

***— У ліцэі вучышся ад пачатку?***

— Не, я паступіў на другі курс. У нас можна паступіць на 1, 2 і 3 курсы.

***— А дзе ты раней вучыўся?***

— У рускамоўнай гімназіі.

***— Дык чаму ж перайшоў у беларускі ліцэй?***

— Таму, што тут усё па-беларуску і на вельмі высокім узроўні гуманітарныя навукі: гісторыя, літаратура і мовы. Таму і конкурс тут высокі — 5 асоб на адно месца. Паступаюць нават рускамоўныя.

***— А на якой мове вы, вучні, гаворыце між сабою?***

— Большасць гаворыць па-руску. У нашай групе на 23 асобы толькі я і яшчэ адзін сябра стала гаворым пабеларуску. Яшчэ чатыры карыстаюцца беларускай моваи паслядоўна. У паралельнай групе больш свядомых беларусаў, нават калі гавораць па-руску. У пытаннях захавання ліцэя разладу няма, хаця некаторыя пытаюцца, чаму дакараем Лукашэнку. Наогул, з беларускай свядомасцю лепей на трэцім курсе.

***— А на якой мове гавораць дома твае бацькі?***

— Па-руску. У нашай сям'і толькі я беларускамоўны. Але мае бацькі цалкам нашу справу падтрымоўваюць.

***— Якім чынам абараняеце школу?***

— Людзі на пікеты прыходзяць, хто як можа. Я дык штодзень, некаторыя іншыя, чалавек 15—20, таксама. Тое самае з бацькамі. Іншыя прыходзяць, калі толькі могуць. За захаванне ліцэя выказваемся стопрацэнтна.

Два тыдні таму мы правялі шэсце. Узялі глобусы, іншыя дапаможнікі і падручнікі ды выйшлі на вуліцу, каб прайсці вакол квартала, дзе знаходзіцца наш ліцэй. Хацелі тым паказаць, што мы маўчаць не будзем. Тады ў дапамогу міліцыі прыйшлі хлопцы з „Прамога дзеяння", якіх прывезлі на аўтобусе. Міліцыянты паказвалі каго браць, і яны бралі. Узялі чатыры чалавекі, у тым ліку спадара Крыштаповіча, старшыню Бацькоўскай рады. Прытым парвалі яму пінжак. Схопленых патрымалі і вынеслі ім папярэджанне. Ага, разбілі яшчэ біюст пітэкантрапа.

***— Чаму ўлады хочуць забраць будынак вашага ліцэя?***

— Ідзе наступ на беларускую мову і культуру, а наш ліцэй узгадоўвае будучую нацыянальную эліту. У іх радзіма ад Буга да Курылаў, у нас моладзь гадуецца па еўрапейскаму ўзору.

Безумоўна, важны і сам будынак. Калі яго возьмуць, дык гэтым самым прыдбаюць вялікія грошы. Будынак знаходзіцца ў прэстыжным раёне, дзе міністэрствы, пасольствы і г.д. Ён адзін з апошніх, які тут не падуладны прэзідэнцкай мікрадзяржаве.

***— Як думаеш, адстоіце свой ліцэй?***

— Я лічу, што ліцэй адстоім, але спробы зачыніць яго яшчэ будуць. Дарэчы, гэта ўжо трэцяя такая спроба.

***— Гаворачы з табой складваецца ўражанне, што старшыня Рады навучэнцаў стаў ужо спрактыкаваным палітыкам.***

— Можа гэта і палітыка, але ж ліцэй стаў палітычнай кропкай. На мой погляд, нашым уладам непатрэбная беларуская мова.

**Гутарыў Алег ЛАТЫШОНАК**

# Запрашэнне на Спасаўскія запусты

10 жніўня 1997 г., а 16-ай гадзіне ў амфітэатры ў Бельску-Падляшскім пачнуцца II Спасаўскія запусты. У праграме фэсту: прэзентацыя народных спасаўскіх абрадаў, выступленні бельскіх беларускіх калектываў, а таксама „Чарамшыны" з Чаромхі, „Зуброў" з Беластока і вакальна-інструментальнага калектыву „Красавік" з Менска.

Арганізуюць Спасаўскія запусты супольна ўсе беларускія арганізацыі Бельска-Падляшскага.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Лясная паштальёнка

А ці ведаеце вы, што ў кожным лесе ёсць свая пошта і, зразумела, паштальёны?

У Залатым бары паштальёнкай была сарока Чара. А якую пошту яна разносіла? Ды ўсялякую. Пайшлі вунь зайцы на далёкі агарод аж за Сіняе возера нарыхтоўваць капусту. Дзень, другі, трэці чакаюць — выглядаюць іх зайчыхі з маленькімі зайчаняткамі. І гаруюць: ці не здарылася якая бяда з зайцамі? Аж тады прыносіць Чара тэлеграму: „Так і так, маўляў, такія гіганцкія качаны ўрадзілі ў гэтае лета, што ледзьве коцім, таму не хвалюйцеся, неўзабаве будзем".

„Дзякуем, Чара!" — кажуць павесялеўшыя зайчыхі. А зайчаняты ад радасці вакол яе гапачок вытанцоўваюць.

У баброў — свае клопаты. Пачала ў рэчцы спадаць вада, хутка, так і глядзі, усе іхнія хацінкі апынуцца на сушы. Паслалі бабры ўніз па цячэнню брыгаду сталяроў будаваць грэблю. Была там і Чара і прынесла яна ў Бабровую вёску просьбу: „Не спраўляемся самі, чакаем дапамогі!"

Мядзведзь-пчаляр сваім сваякам у лісце паведамляе прыемную навіну: „Збіраю мёд, ужо ўсе бочкі і бітоны поўныя, так прыязджайце, забірайце". І мядзведзі запрагаюцца ў вазок, спяшаюцца на пчальнік.

У той дзень Чара чамусьці затрымлівалася, што не было на яе падобна. Зайцы і вавёркі, барсукі і ласі, кожны займаючыся сваёй справай, час ад часу пазіралі на неба: ці не ляціць Чара?

— Ці не трапіла яна ў бяду? — раздумваў мудры Лось. — Ці мала чаго можа здарыцца ў дарозе...

— Не пер-ражывайце! Загарр-ае, мабыць, ваша Чар-ра на возер-ры, — пракаркала бясхвостая Варона, але адразу змоўкла, бо на яе сярдзіта паглядзеў Лось.

А Чара ў той дзень, як і заўсёды, ляцела такой знаёмай дарогай — па-над палямі і пералескамі, па-над рэчкай і Сінім возерам. Дзень быў ясны, неба — блакітнае, і паштарская сумка не здавалася ёй цяжкай. Чара нават напявала:

*Лісты і тэлеграмы*
*І здалёку, і зблізку*
*Да Залатога бору*
*Нясу, нясу, нясу.*

Унізе праплывалі знаёмыя палянкі, дрэвы і кусты. Вунь і Залаты бор ужо віднеецца, вось і Сунічная палянка, па ёй сцелецца туман...

Але які туман можа быць у сонечны дзень? Чара апусцілася ніжэй і ўбачыла: на паляне курыцца дым. Гэта гарэла сухая трава, агонь перакідваўся на кусты, падбіраўся да маладзенькіх сасонак. Чара кінула сваю паштарскую сумку і стала лятаць над полымем, махаць крыламі, але агонь не гас, а толькі яшчэ мацней разгараўся. І тут Чара падумала: непадалёку ж Бабровая вёска. І яна паляцела туды.

Бабры хутка прыцягнулі шлангі, помпы і Чара разам з імі пампавала ваду аж пакуль агонь не патух. І тады яна кінулася да кустоў, дзе пакінула сумку з лістамі, паштоўкамі і бандэролямі. Але на тым месцы чарнела толькі кучка попелу...

— Што ж цяпер будзе?! — у роспачы прамовіла Чара.

Бабры суцяшалі яе, як умелі, але яна не магла супакоіцца. Позна вечарам вярнулася Чара дадому і ўпала зняможаная. А прачнулася яна ад галасоў, якія даляталі з паляны. Чара адчыніла акно і ўбачыла гурт усхваляваных звяроў і птушак.

— Ну вось, яна спіць сабе спакойна, а мы тут пошту чакаем — выглядаем! — заматляла пушыстым хвастом Лісіца.

— А як жа, хоць бы прабачэння папрасіла, — уставіў слоўца лапавухі Заяц.

— Дайце ёй хоць слова сказаць! — цыкнуў на іх разумны Лось, і яго падтрымалі зайчыхі.

— А што там слухаць? Хіба не ведаеце вы гэтых сар-рок! Хіба можна ім вер-рыць? — каркнула Варона. Чара толькі асмелілася нешта сказаць, як звяры і птушкі зноў заспрачаліся.

— Тады дазвольце мне сказаць! — І толькі цяпер усе ўбачылі Бабра, які ўскараскаўся на пянёк і раскланьваўся на ўсе бакі. — Калі б не паштарка Чара, то і Залатога бору магло б не быць...

І Бабёр пачаў расказваць пра тое, што здарылася ўчора на Сунічнай палянцы.

Калі ён закончыў расказваць, звяры і птушкі нейкі час маўчалі, нават Варона. А пасля кінуліся да Чары, каб падзякаваць ёй.

Але лясной паштальёнкі Чары ўжо не было на паляне. Яна зноў была ў дарозе, ляцела па новыя лісты.

**Васіль Чухліб**
*Пераклаў з украінскай*
*Валеры Бабей*



Фота Ганны Кандрацюк

*Агнешка Максімюк з Рыбалаў прыгожа чытае на старажытнацаркоўнаславянскай мове.*

## Вясёлы куточак

Чым займаецца твой бацька?
— Збірае манеты.
— Ён калекцыянер?
— Не, жабрак.




Мал. Тамаша Дзямянюка

* * *

Прыбягае Ясь у хату:
— Мамка, дай мне пяць тысяч!
— Навошта, сынок?
— Для беднага чалавека.
— А дзе ж ён?
— Вунь на тратуары стаіць і прадае марожанае.

* * *

Мужык кажа жонцы:
— Хто выпіў маю гарэлку?
— Я, у маёй хаце няма месца для алкаголю!

**Даслаў Тамаш Дзямянюк**

## „Наша ніва"

Тыднёвік „Наша ніва", які выдаваўся ў Вільні з лістапада 1906 да жніўня 1915 года быў адным з найважнейшых фактараў, які паўплываў на адраджэнне беларускасці ў пачатку нашага стагоддзя. Заснавалі яго Аляксандр Уласаў ды браты Іван і Антон Луцкевічы. Уласаў стаў першым рэдактарам газеты. Вакол „Нашай нівы" згуртавалася амаль уся эліта беларускай інтэлігенцыі. На яе старонках друкаваліся амаль усе тагачасныя стваральнікі беларускай літаратуры — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Вацлаў Ластоўскі, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Карусь Каганец і дзесяткі вядомых віленскіх публіцыстаў. Газета разыходзілася па ўсёй беларускай прасторы ад Смаленшчыны на ўсходзе да Сакольшчыны на захадзе. Мела сярод сваіх чытачоў таксама дзесяткі карэспандэнтаў. Таму знаходзім там весткі з-пад Сямятыч, Крынак, Бабруйска і Гомеля. Газета фарміравала нацыянальную думку не толькі сярод русіфікаванай і паланізаванай інтэлігенцыі, але таксама сярод сялянства. Выхавала адно пакаленне беларусаў, якое ў 1918 годзе было ўжо настолькі свядомае, што зразумела, што найлепш жыць у сваім доме і паспрабавала стварыць беларускую дзяржаўнасць.

Рэдакцыя „Нашай нівы" бачыла паслядоўнасці беднасці і неадукаванасці беларускага люду, а таксама, як нахабна суседнія народы — палякі і расейцы — выкарыстоўваюць дабрыню і наіўнасць беларускага селяніна. Газета выступала супраць расколу беларускага грамадства паводле веравызнання. У выніку дзейнасці польскіх партый і Каталіцкага касцёла ішла паланізацыя беларусаў каталіцкага веравызнання. Расія пры дапамозе дзяржаўнага і царкоўнага апарату вяла палітыку русіфікацыі. Нашаніўцам, сярод якіх былі праваслаўныя і каталікі, удалося аднак паўстрымаць працэс знішчэння беларускай нацыі. Таму роля гэтай газеты ў навейшай гісторыі беларусаў была асаблівая. Ва ўмовах адсутнасці свае дзяржаўнасці ўдалося адрадзіць сваю культуру, гістарычную памяць, а мове — вярнуць яе цывілізацыйнае значэнне.



*Алег Кабзар, бабуля Марыя Нікіцюк з Мокрага і Пятро Дземянюк.*


Фота Ганны Кандрацюк

*„Бабка Еўка”-рэге — гэта дасканалы твор для танца.*

# Кашубская Швейцарыя

У час X Сустрэч „Зоркі”, якія на працягу шасці дзён праходзілі ў Гданьску, удзельнікі, дзеці з Беласточчыны і Вільні, ставілі сабе за мэту пазнаёміцца з культурай і будаўніцтвам кашубаў. У праграме экскурсіі было наведанне кашубскага музея і школы.

У Гладніцу паехалі мы на аўтобусе. Сапраўды, дарога была чароўная. Я і мае сябры захапляліся ўзгоркамі і азёрамі, прыгажосцю кашубскіх палёў. Ніхто нават не падумаў, што мы ўжо на месцы, хаця дарога была доўгая. Гэта сведчыць аб тым, што кашубскія краявіды цудоўныя і мы проста былі заваражаны імі.

Шкада, што кашубская школа ёсць адна. Звонку зусім не напамінае яна сапраўднай школы, толькі чырвоную мураванку, каля дзвярэй якой знаходзіцца герб кашубаў — чорны грыф на жоўтым полі. Школа існуе з 1991 года. Вучыцца ў ёй 21 дзіця ў класах I—III. Школа пабудавана была сто гадоў назад немцамі. Тады людзі лічылі кашубскую мову гаворкай.

Школа, на мой погляд, вельмі цікавая. Уражваюць у ёй малюнкі дзяцей, старыя кашубскія прылады і здымкі людзей, якія заслужыліся для кашубскага народа. У школе працуюць тры настаўнікі, спадарства Баброўскія і пані Ямраміра Лябуда. Спадар Баброўскі з'яўляецца дырэктарам школы. Я яшчэ раз пераканалася, што нацыянальнасць і мова — гэта дзве розныя справы. Сведчыць пра гэта прыклад спадароў Баброўскіх. Маці Вітальда Баброўскага — слянзачка, а жонка — полька. Цікава, што Галіна Баброўская — дачка рэпатрыянтаў з Ашмяншчыны.

Мы мелі нагоду пазнаёміцца з кашубскай мовай, калі вучні прыгожа дэкламавалі свае вершы. Прыемна было пазнаёміцца з кашубскай паэткай Ярамірай Лябудай, якая навучае кашубскай мове. Яна зачытала нам фрагмент свайго перакладу казкі „Брыдкае качанё” Х. К. Андэрсена.

Кашубскія гаспадары былі вельмі гасцінныя. Падрыхтавалі яны нам вогнішча і каўбаскі. На жаль, падаў дождж. Шкада яшчэ і таму, што кашубы — сімпатычныя людзі і мы хацелі з імі лепш пасябраваць.

Мы былі так захоплены культурай і звычаямі кашубаў, што не звярнулі ўвагі на дрэнную пагоду і паехалі наведаць кашубскі музей у Вдзыдзах-Кішэўскіх. У гэтай вёсцы, распаложанай у чароўным месцы, знаходзіцца кашубскі скансэн. Месца цудоўнае, таму што распаложана яно над возерам Вдзыдзэ. Скансэн паўстаў дзякуючы спадарам Гульгоўскім. Тэадора Гульгоўская займалася мастацтвам. У скансэне знаходзіцца выстаўка яе карцін. Ізыдор Гульгоўскі быў настаўнікам, паэтам і аўтарам важных твораў, прысвечаных кашубам.

У скансэне ёсць дом, прысвечаны памяці яго заснавальнікаў. Там знаходзяцца здымкі і каштоўныя, дарагія сэрцу спадароў Гульгоўскіх прадметы. Вялікае ўражанне робіць парк, у якім размешчана каля трыццаці драўляных экспанатаў, гаспадарчых будынкаў, дваркоў, хатаў, пасяленняў. У сярэдзіне хатаў знаходзіцца многа прылад. Вельмі цікава, што продкі кашубаў пяклі хлеб у печцы, якая стаяла на двары.

У скансэне вельмі прыгожы вятрак-казляк з XVII стагоддзя. Будучы ў музеі не можна абмінуць кашубскую школу. Усіх здзівілі кашубскія ноты-малюнкі.

Кожны, хто будзе ў наваколлі Взыдз-Кішэўскіх павінен пабачыць гэтае цудоўнае месца, да чаго я заахвочваю. Думаю, што ўражанні надоўга застануцца ў памяці.

**Жанэта Роля**

# Начныя разнікі

Фільм „Кобра” — гэта чарговая амерыканская прадукцыя, дзе галоўную ролю іграе Сільвестар Сталоўн. Пастаноўшчыкам фільма з'яўляецца Джордж Касматас, а сцэнарый аўтарства Сільвестра Сталоўна паўстаў на аснове рамана Паўлі Гашынг.

Загаловак фільма ўзяты ад рысаў характару галоўнага героя. У гэтым выпадку Сільвестар Сталоўн іграе станоўчую ролю.

Фільм расказвае пра крутога мужчыну, які нават у час абароны заложнікаў затрыманых у магазіне знаходзіць час, каб выпіць кока-колу. Пасля сваіх адважных паводзін „Кобра” атрымлівае прапанову ад паліцыі затрымаць групу разнікоў, мэтай якіх з'яўляецца забіванне ўсіх слабых людзей. Яны хочуць стварыць свет, у якім будуць жыць толькі моцныя і цвёрдыя тыпы.

Сведкам іх чарговага злачынства ёсць мадэльерка. Пачынаецца пагоня. Спалоханая мадэльерка просіць у „Кобры” дапамогі. „Кобра” стае „апекуном” прыгожай бландзінкі. Наш герой шукае бяспечнага месца, дзе разнікі напэўна не знойдуць мадэльерку. Апрача партнёра „Кобры” — сяржанта Ганзалеса, спадарожнічае ім паліцыянтка, якая, як пазней высветлілася, з'яўляецца адным з начных злачынцаў. Яна паведамляе сваіх калег аб месцы знаходжання.

У невялікім гарадку адбываецца бітва паміж двума бакамі. У фінальнай сцэне галоўны герой змагаецца з правадыром хеўры.

Фільм канчаецца тым, што „Кобра” садзіць мадэльерку на матацыкл і ад'язджае з ёй у „сінюю даль”.

Мушу сказаць, што фільм у гэвай катэгорыі належыць да лепшых. Словы прызнання належацца аўтару сцэнарыя за хуткае дзеянне. Напэўна ніхто ў час трывання фільма не нудзіцца ні хвіліны. Эфекты спецыяльныя таксама могуць зачараваць сваім размахам.

Ігра акцёраў не заслугоўвае на спецыяльную ўвагу. Можа толькі роля правадыра начных разнікоў. Нянавісць на яго твары і ў вачах узбуджае ў гледача жудасць. Сталоўн, як і ў іншых фільмах хуткага дзеяння, захаваў каменны твар. У шасцібальнай шкале фільм „Кобра” атрымае ў мяне можа чатыры, можа пяць ачкоў. І вось не многім гэта спадабаецца, але фільм „Кобра” і яму падобныя, паводле мяне, не павінны паўставаць. Каб паказаць мужнасць і адвагу ў барацьбе дабра са злом, зусім не трэба забіваць на экране дзесяткаў людзей, ламаць косці і разбіваць галовы. Несправядлівасці і крыўды аж надта ў штодзённым жыцці. Не павінны мы яшчэ глядзець іх на экране, асабліва ў такой ступені. Мужнасці і адвагі, а і іншых добрых прымет вучаць, паводле мяне, фільмы Майкэла Ландана, напрыклад, серыял „Аўтастрада ў неба” ці адпаведны для маіх аднагодкаў „Хатка на прэрыі”. Зараз абодва серыялы паказваюцца па польскіх спадарожнікавых тэлеканалах.

Рэкамендую гэтыя фільмы, хаця няхай кожны сам выбірае! Але самае важнае, каб выбіраць — а не глядзець усё, што пападзе нам у вочы.

**Жанэта Роля, VII кл.**

*(другое месца ў конкурсе на рэцэнзію)*

PS. Лаўрэаты конкурсу атрымаюць польска-беларускія слоўнікі.

# Магічная крыжаванка № 31

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| List ► | | | | |
| Igła ► | | | | |
| Słoń ► | | | | |
| Czołg ► | | | | |

# Польска-беларуская крыжаванка № 32

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ranga / Palant | ▼ | Fakt / Rodzaj | Fakt / Trzy | ▼ | Butla gliniana z długą szyjką | ▼ |
| ► | | ▼ | ▼ | | | |
| Norka ► | | | | | | |
| Łyk ► | | | | | | |

# Цэнтр славянскай прэсы і кнігі

Будучы пару тыдняў таму ў Варшаве, падвярнулася мне шчасце стаць уласнікам некалькіх гадзін вольнага часу. Тыцнуўшы нос у той-сёй цэнтральны магазін ці універмаг, якія, дарэчы, за час „трансфармацыі" змяніліся непазнавальна, адчуў я сябе быццам мужык у горадзе. Маючы да таго ж вопыт, што валэнданне па цэнтры нашай сталіцы хутка знемагае ногі, рашыў я, не без цікавасці, наведаць Цэнтр славянскай прэсы і кнігі, што па вуліцы Гагарына 15. Адышоўшы ад Бельведэрскай з пэўнай занепакоенасцю аглядаўся я за назвай вуліцы, бо на першых будынках Гагарына не было. Няўжо ж варшавякі пайшлі за прыкладам нашых беластоцкіх найяснейшых крэсавых патрыётаў і выкінулі Гагарына з сусветнай гісторыі? — цікавіла мяне. Мае апасенні аднак не апраўдаліся: што ні гаварыць, усё ж такі Варшава з'яўляецца сталіцай краіны, ад якой вымагаецца нейкая прыстойнасць перад светам, а не адно прытворства ў прытворы.

Вось перада мною і будынак з адрасам: Гагарына 15. I шыльда Цэнтра на ім. Але вось як у той Цэнтр увайсці — загвоздка! У дзвярах разбітая шыба, прыкрытая нейкай пласцінай, і парог невышараваны, быццам тудою і ходу ніякага няма. Пахадзіў я з розных бакоў, быццам воўк каля вожыка, але не знайшоўшы другога ўваходу, нерашуча ўзяў за клямку тых адлюдных дзвярэй. I прайшоў. Не бачыўся я з Янкам Заброцкім, дырэктарам Цэнтра, добрых дваццаць гадоў. Калісь, у раннія сямідзесятыя, мы пацікуу, бо найбольш менавіта так выпадала быць беларусам, склалі заяўкі стаць завочнікамі беларускай філалогіі. Наша адукацыя была, хаця і вышэйшая ўжо, аднак зусім не філалагічная, і спадарыня Смулкова адмовіла нам, інфармуючы, што гэта вельмі цяжкая дысцыпліна. *Białoruś to nie jest sprawa dla mięczaków*. Не маючы шансаў на афіцыйную грамату, давялося астацца толькі беларусам-аматарам. *Białoruś, Białoruś...*

Янка Заброцкі працаваў дваццаць гадоў шэфам рэкламы Цэнтра распаўсюджвання навуковых выданняў Польскай акадэміі навук, а наступныя дзесяць — шэфам імпарту ў той жа фірме. Калі ў Польшчы наступілі перамены, павыкідалі ўсе выданні, што былі з *сацыялістычных* краін; трапілі яны на перамолку ў завод у Язёрне пад Варшавай. Нельга аднак было скідаць з уліку тое, што са зменай палітычных арыенціраў дзяржавы, не змяніліся адначасна і ўсе зацікаўленні людзей. Янка тады рашыў заснаваць свой прыватны цэнтр, спачатку беларускай, кнігі. На першых парах памясціў яго ў сваёй кватэры, аднак з ходам часу, калі Цэнтр набіраў дынамікі, кватэра пераставала быць сямейным домам і прыйшлося для Цэнтра шукаць другога месца. Вялікую дапамогу ў гэтым аказалі д-р Мікалай Алексяюк, старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ і Мар'ян Вальчак, старшыня Канвента Пагаднення Польшча-Беларусь.

Цэнтр прэсы і кнігі славянскіх народаў, такая яго афіцыйная назва, супрацоўнічае перш за ўсё з універсітэцкімі бібліятэкамі. У Польшчы найбольшым партнёрам Цэнтра з'яўляецца... Каталіцкі Люблінскі універсітэт. Апрача яго яшчэ Універсітэт А. Міцкевіча ў Познані, Універсітэт М. Каперніка ў Торуні, Ягелонскі універсітэт у Кракаве, Сілезскі ў Катавіцах, Апольскі, Вышэйшыя педагагічныя школы ў Зялёнай Гуры і Ольштыне, Ossolineum у Вроцлаве. Цікава выглядае і супрацоўніцтва з замежжам. Партнёрамі Цэнтра з'яўляюцца універсітэты ў Берне і Цюрыху ў Швейцарыі, шэсць універсітэтаў і два кніжныя магазіны ў Германіі, Лундскі універсітэт у Швецыі, Універсітэт у Адэлайдзе ў Аўстраліі. Калі мова пра апошні, дык здаецца мне, што тут нейкую ролю сыграў праф. Ян Чыквін, старшыня Літаб'яднання „Белавежа". Будучы вось раней на адным з міжнародных навуковых канферэнцый у Беластоку, на якой быў і праф. Чыквін, пабачыў я, што адна прафесарка, з Адэлайды менавіта, цягне пад рукою цэлую кіпу кніжак „белавежцаў"; ці не зачын быў гэта тамашняму зацікаўленню беларусістыкай?.. Наладжана знаёмства з карэйцамі і японцамі, а таксама з італьянцамі, іспанцамі і партугальцамі. I яшчэ адна цікавінка: у Аргенціне арганізуецца славянскае спадарожнікавае тэлебачанне на абедзве Амерыкі і зачынальнікі яго захацелі з Цэнтра ўсе газеты з былога сацлагера апрача ГДР... Многія замежнікі маглі б непасрэдна кантактавацца з Беларуссю, аднак выбіраюць Варшаву.

Прапанова Цэнтра пашырылася ўжо на ўкраінскія і расейскія выдавецтвы; нехта з Масквы нават меў прэтэнзіі, што ім трэба адводзіць больш за палову месца. Бачыў я і грэчаскія тэалагічныя выданні. Ладзяцца кантакты з Македоніяй, Славеніяй і Балгарыяй, а ў планах — усе славянскія краіны. Таксама плануецца прапанаваць усе беларускія кнігі са ЗША; дагэтуль атрымоўвалі толькі „Беларускі дайджэст" і „Беларуса", а грошы ад іх продажу прызначаны на Беларускі музей у Гайнаўцы. I не толькі друкаванае прапануе Цэнтр, але ёсць і кампактныя гукавыя і мультымедыйныя пласцінкі.

Названне Цэнтра славянскім мае і свой псіхалагічны плюс, кажа Янка Заброцкі. Нашы людзі баяцца нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусамі, і „славянскасць" дае ім пэўную ананімнасць: як бы што, то я не... Зайшлі аднойчы сюды бацька з пятнаццацігадовым сынам, і вось гэты сын, упершыню за ўсё сваё жыццё, даведаўся, што бацька яго быў калісь беларусам. А пра разбітыя дзверы Цэнтра — глянуў Янка на мяне і ўхмыльнуўся: „прыяцелі".

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Выбраны Швед

*I гнёзды сцераржы айчынных словаў...*
*Алесь Барскі*

Урэшце паявіўся зборнік перакладаў твораў Віктара Шведа на польскую мову. Раней траплялііся яго „польскія" вершы то ў часопісах, то на лістках календароў; якой жа нечаканай радасцю было, адарваўшы картачку з календара, убачыць на другім баку выдатны верш Віктара Шведа на прачыстай польскай мове! Пераклад быў самога аўтара, бо ніхто, як ён, гэтага, здаецца, не зробіць. Ён **выбраў** мову беларускую, але польская яму даецца не ў менш майстэрскай форме. Дарэчы, у нашага „Самасея", як калісь падпісваўся, залатыя рукі і сэрца да шмат чаго — і журналістам быў і бывае, і рэдактарам, і сааўтарам падручнікаў, і грамадскім дзеячам, і, дзякуй Богу, ніводная дарога перад ім яшчэ не закрыта, хоць пры яго Натальцы некаторыя пытаюцца пра яго як пра дзедку, а не пра татку.

У зборніку „Wiersze wybrane", які дапамаглі выдаць Аддзел культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку ды Гмінныя ўправы ў Орлі і Чыжах, ёсць вершы, зачэрпнутыя з усіх тамоў твораў „для дарослых", выдадзеных у Польшчы, Беларусі і нават у Амерыцы. Перакладалі Аўтар і Янка Леанчук, вядомы беластоцкі паэт. „Для дарослых", гэта не значыць не „для меншых". Я, як школьніца, так як мае равеснікі, і старэйшыя, і маладзейшыя таксама, вучыліся роднай мовы і любові да роднага і з „сур'ёзных" вершаў, і вершаў Віктара Шведа для дзяцей. А калі чытаеш вершы В. Шведа, адчуваеш заўсёды тое, што кранаюць яны струну адну — дзяцінства, часу, калі нараджаюцца самыя моцныя эмоцыі пачуцця роднага і роднаснага, любові, захаплення прыгажосцю прыроды, душы чалавечай і слова. Часу, калі зараджаецца ўсім гэтым адкрытая душа чалавека. Часу, які ў паэтаў працякае крыху іначай, бо, каб быць паэтам, тое дзяцінства і бачанне дзіцячае мусова захаваць, і адчуваць слова як вечна новае, свежае, як у той дзень стварэння, калі Адам меў назваць усё, што Бог яму даў. А яно, тое слова, простае, хоць складанае. I таму верш Віктара Шведа такі, здаецца, просты, зразумелы. Некаторыя „выкшталцона-мондрыя" вучоныя, што літаратуразнаўцамі называюцца, выдзіўляюць, бывае, над простай фразай, крывяцца, што гэта быццам нейкае нямоднае, але, давайце, скажам праўду: хто не ўмее так пісаць як Віктар Швед, той будзе хавацца за шматслоўем сваім ці чужым. А тут ёсць і лад слова, і лад маральны.

Чалавек, які пільнуе агменю, роднага цяпельца. Віктар Швед. Руплівец роднага слова. Сціплы чалавек, якому іншыя хоць як-кольвек хочуць аддзячыць — хоць бы тым медалём ці прамовай на гадавіне; гэта, напэўна, цешыць аўтара, тая ўвага і казённая падзяка, але як нам сапраўды падзякаваць за тое, што для нас пакінуў і робіць яшчэ? Гэты храніст і вялікага і простага, і радаснага і трагічнага, няўмольнага, як хоць бы таго, як прападае наша імя, беларусаў, як самі яго зводзім у магілу.

*Pachnie domowe mi ognisko.* Цудоўныя рукі маці, што:

*...len przędły i płótno tkały.*
*Tuliły do serca syna*
*Gdy dom opuszczał rodzinny.*
*A potem wnucząt małych*
*Chowały, pieściły, głaskały.*
*O, ręce matuli zbawienne,*
*Ręce najdroższe, bezcenne,*
*Wycałowane tak rzadko,*
*Ręce matki...*

Праўда, прыгожа гучыць і па-польску? Пераклады Янкі Леанчука таксама вельмі блізкія па-духу аўтару. Гэта ж іх *języki domowe*.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



*Злева: Аляксей Гародзіцкі, Віктар Швед і Анатоль Вярцінскі.*

# Пасыплюцца гасцініцы як грыбы

Тыя белавежцы, якія мелі яшчэ надзею на вяртанне чыгуначнага транспарту, могуць канчаткова перастаць думаць аб гэтым. Чыгуначныя ўлады, непахісна трымаючыся аргумента нерэнтабельнасці „белавежскага адгалінавання", здалі ў арэнду абедзве тутэйшыя станцыі Канвенту польска-беларускага пагаднення, арганізацыі, якая дзейнічае пры Сейме РП. Дагавор быў падпісаны 16 чэрвеня г.г. у Варшаве. Канвент намераны шмат інвеставаць у нанятыя будынкі і іхняе наваколле. Аб'екты будуць мадэрнізавацца і развудоўвацца. Канчаткова ў Белавежы-Палацы і Белавежы-Таварнай узнікнуць гасцініцы па 100 начлежных месц кожная. У гэтых аб'ектах мае быць створаны інтэграцыйны асяродак культуры, адпачынку і здароўя славянскіх народаў, ды не толькі адных палякаў і беларусаў.

Што ж, не будзе ўжо чыгункі — гэта вядома. Але што станецца з белавежскім „Купаллем", якое традыцыйна ўжо ладзіцца на станцыі Белавежа-Палац? Дзе яно перанясецца, пакольні ў мястэчку для гэтага мераприемства няма больш адпаведнага месца?

Усё паказвае, што канвент не будзе адзіным інвестарам, які займаецца пабудовай новых гасцініц у Белавежы. Актуальным надалей астаецца план збудавання польска-замежнай суполкай раскошнага гасцінічнага комплексу на Заставе, побач рэстарана „Зуброўка", аб чым ужо ў „Ніве" пісалася. Невялікая гасцініца-пансіён (30 двухмесных пакояў) узнікне на колішнім пляцы Гміннага каапэратыва, побач г.зв. базы — ва ўсходнім баку Стачка. Тут будзе таксама рэстаран на 120 месц, стаянка для аўтамабіляў, басейн і спартыўная зала. Інвестарам з'яўляецца Марэк Чарны.

Трохі меншы пансіён узнікне па вул. Крыжы, насупраць будынка, у якім даўней змяшчалася Управа гміны. У ім будзе 15 пакояў з 25-цю ложкамі, таксама зала-рэстаран на 30 месц. Інвестыцыю будзе весці Ян Ляшчынскі.

Белавежцы наогул цешацца ўсімі названымі інвестыцыямі. Яны маюць надзею на новыя месцы працы, а і госці, якія наведваюць славутую пушчу, будуць мець лепшыя ўмовы.

**Пётр Байко**

# Вяселле згулялі ў 1933 годзе

— Перад шлюбам я ні з кім не любілася, — кажа Надзея Марціновіч са Студзіводаў.

Зараз бабулі 84 гады. У час маладосці маёй субяседніцы дзяўчатам нельга было гуляць у пачуцці.

— Бывала і падабаліся хлопцы. Вось калі танцавалі на забаве, то я старалася як найхутчэй уцячы кавалеру. Не прыставала. Думала: „Калі яму падабаюся, няхай за мной паходзіць!"

Мужчыну свайго жыцця пабачыла яна як у *дівоснуби* (сваты) да яе з Краснага Сяла прыехаў. Ён з маршалкам быў. Старэйшы на пятнаццаць гадоў, але затое які багаты. І вёска Краснае Сяло пышная была.

— У той чацвер, — кажа Надзея Марціновіч, — яшчэ і другі пасватаўся. Таксама з маршалакам, як след, прыехаў. З Чэхаў хлопец той быў. Ён, папраўдзе, і больш спадабаўся за краснасельца. Тата кажуць за багатага ісці: „Як за беднага пойдзеш, будзеш хадзіць на чужое поле жыта жаць. А за багатага, на сваім загоне працаваць будзеш". Калісь такія замужжы былі — бацькі скажуць і што будзеш рабіць? Ну і пайшла я за багатага, за краснасельца. Перад вяселлем у адну суботу прыехаў ён пагаварыць. У другую суботу гадзілі пасаг — дамаўляліся, колькі тата за мной пасагу дадуць. У той час пасаг быў вельмі важны. Бывала, што жаніх, калі не атрымаў жаданага, ад вяселля адмаўляўся. Мой бацька вялікі пасаг даў. Два гектары зямлі, карову, бычка-гадавіка, дзве авечкі, дзвесце злотых. „*Дужо од холеры*, — каменціруе бабуля. — З такім пасагам і за бедным жыла б".

Вяселле згулялі ў пачатку новага 1933 года. Надзеі Марціновіч было ўжо дваццаць гадоў.

— Як толькі з двара ў царкву выехалі, фіць і сані вывернуліся. Людзі смяюцца: „Ой маладую вывернулі". Іншыя гаварылі, што гэта добры знак.

— Як вы былі апрануты да вянца? — пытаю субяседніцу, бо шлюбны партрэт, які вісіць у пакойчыку бабулі, гэта фотамантаж. На ім гордая і прывабная Надзея і малады муж у жаўнерскім мундзіры.

— *Бардзо гожэ* апранутая была, — смяецца бабка Надзя. — На нагах лакіраваныя туфлі, *бардзо ладны*, панчохі белыя, сукенка да палавіны лыткі, паліто мела добрае, вэлюм на галаве. У той час на кожным праваслаўным вяселлі спявалі абрадавыя песні. Апрача сваіх людзі любілі расейскія шэдэўры. Самы вялікі набор расейскіх песень прыехаў разам з вяртаннем бежанцаў. Адну з іх людзі ўвялі ў вясельны абрад. Песня пасавала да вяселля Надзеі Марціновіч*.

На вяселле ўвесь род клікалі. Перад ад'ездам маладой у царкву спамаганне рабілі. Перапівання тады не ведалі.

— Тады людзі бедныя былі. Толькі што абжывацца пасля Расіі пачыналі. Не то, што цяпер — не ведаюць, што на вяселле несці, — успамінае бабка Надзя і прыгадвае вясельнае застолле. — *Нажэндзя* калісь толькі як цяпер не было. На стале стаялі звычайна два паўміскі з мясам. Хлеб і булкі клалі ўжо парэзаныя на стол. Відэльцаў не было, хіба толькі адзін на ўвесь стол, каб ім мяса на хлеб палажыць. Часам сват выме ножык з кішэні, дружцы мяса кусочак адрэжа і разам з хлебам падасць. І адным кілішкам пілі. Вып'юць адну бутэльку, а як гаспадар багаты і не скупы, то і яшчэ другую паставіць. Сваты цвярозыя былі. Перад вянцом сваты ішлі запрагаць коней. Кожны з іх меў сваю дружку на вяселлі. Падганялі пад двор маладой каня з санямі, дружка слала сядзёлак, сват браў сваю дружку ў сані і ехалі вянчаць маладую. Пасля шлюбу зноў крышку выпівалі. Не ва ўсіх на вяселлі роўна было. Бывала, што ў багатых і два кілішкі на стол ставілі. Тады людзі казалі: „Ой, што гэта за вяселле было, там аж два кілішкі стаялі". Найболып часу займала забава. Танцавалі амаль усю ноч. У хату маладой зыходзіліся як капусту на стол ставілі. Гэта тады, калі маладую да маладога забіраюць. Бывала, нейкую бутэльку вып'юць і капусту паставяць. А бабы спяваюць: „І капуста мая, і качане мае, а ты мілы, чорнабрывы, шчэй кохане мое". Вельмі вясёлыя вяселлі калісь былі. І асабліва, калі граў такі музыкант як Юхім са Студзіводаў. Вясельны аркестр звычайна складала скрыпка і гармонік. Найбольш хіба радасці для вясельнікаў было, калі з прыданым ехалі. Вельмі сваволілі тады. На маім вяселлі Юхім за цыгана пераапрануўся. Як заехалі ў Краснэ Сяло, — працягвае ўспамін бабка Надзя, — людзей назбіралася столькі, што не палічыць. А Юхім-„цыган" як скочыў у тыя бабы краснасельскія! Як яны пачалі пішчаць! Ой, колькі радасці людзям было!


Надзея Марціновіч.

Пра жыццё ў новай сям'і бабка Надзея гаворыць як і ўсе жанчыны беларускі:

— Усё хадзіла і плакала, памерці хацела.

— Ці ў вас ліхая свякруха, ці муж біў? — дапытваюся.

— Не, не. Я ў нікім нічога дрэннага не знаходзіла. Усе былі добрыя. Я сама магла быць горшаю, бо ўсё плакала. Муж і не бачыў маіх слёз. Я як палезу пад печку бульбу выбіраць, плачу, кошык высыплю і зноў схаваючыся плачу. Бо можа мяне бацька без маёй волі аддаў? Можа муж *запаскудны* быў?

Пазней, як дзеці на свет прыйшлі, весялей стала. Надзею Марціновіч любілі ў сям'і і ў вёсцы. У Красным Сяле ахрысціла яна трынаццаць дзяцей.

— Бо яна для людзей усё дабра хацела, — уключаецца ў размову сястра бабкі Надзеі. — Пасля смерці мужа вярнулася дажываць у Студзіводы. І тут толькі пра родных думала. Нават як гуску зарэжа, то ўсю дзецям аддасць, — кажа сястра. — А сабе лапы і галаву пакіне.

У час сустрэчы з бабкай Надзеяй Марціновіч увесь час панавала сардэчная атмасфера. Бабуля праспявала многа старадаўніх песень, расказвала легенды, свае жыццёвыя здарэнні.

— Баюся толькі, што вы, дзеткі, не зразумееце гэтага, — засумнявалася яна.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

*Ой ты папа, ой ты папа,
Ты не есть родной отец.
Справил туфли, бело платье
И поставил под венец.

Я священнику сказала:
„Перестань меня венчать",
А священник отвернулся,
Громким голосом сказал:
„Раз невеста не согласна
Я не стану ей венчать".

Ведь мамаша подскочила,
Стала доченьку бранить:
„Ведь твое годы проходят,
Пора замуж выходить".

Моя мама рано встала,
В саду розу сорвала,
Красоту мою згубила,
Рано замуж отдала.

# Донарскі клуб у Орлі

**Калі ў Орлю прыязджае машына донарскага пункта з Бельска-Падляшскага, у мясцовай амбулатрыіі збіраюцца дзесяткі людзей. Не прыходзяць яны, аднак, за парадай да лекара, а толькі хочуць адгукнуцца на лозунг „Аддаючы кроў, ратуеш жыццё!". На Бельшчыне дзейнічае цяпер толькі адзін-адзінюткі донарскі клуб — у Орлі.**

Першая акцыя аддачы крыві для пераліванння адбылася ў Орлі ў 1971 годзе, а ўжо ў 1974 годзе Арлянская гміна заняла першае месца ў ваяводстве па колькасці аддадзенай крыві. Ініцыятаркай і прапагандысткай донарства на тэрыторыі Арлянскай гміны была медсястра Марыя Шайкоўская, якая сама ахвяравала 5,8 літра гэтага найбольш каштоўнага лякарства. 45-гадовая праца ў амбулаторыі прынесла ёй шмат розных адзнак, у тым ліку найважнейшую — медаль „Заслужаны для здароўя народа". Зараз 71-гадовая арганізатарка арлянскага донарства знаходзіцца на пенсіі.

Грамадска-палітычныя пераўтварэнні апошніх часоў адмоўна паўплывалі на донарства. А вось што мне расказалі ў донарскім пункце ў Бельску-Падляшскім:

— У апошніх гадах наглядаецца змяншэнне колькасці донарскай крыві ва ўсёй Польшчы, у тым ліку і на нашай тэрыторыі. Мы ганарымся арлянскімі донарамі, якія працягваюць добрую традыцыю мінулых гадоў аддаваць бясплатна сваю кроў на патрэбы лячэбных устаноў. Клуб у Орлі налічвае 25 дзейсных донараў. Медсёстры (Люцына Пасечнік, Галіна Любавіцкая, Аліна Савіцкая) прыязджаюць у Орлю кожны другі месяц. Апошнім разам, 11 ліпеня г.г., 22 донары аддалі 9,9 літра крыві. Сярод донараў можна сустрэць людзей розных прафесій — сялян, гаспадынь, чыноўнікаў — беспрацоўных і моладзь. Аддаюць кроў сем'і Савіцкіх, Леўчукоў, Лапухоў, Мартыновічаў, Банькоўскіх. Члены донарскага клуба атрымоўваюць бронзавыя, сярэбраныя і залатыя адзнакі „Honorowego Dawcy Krwi". Першую такую залатую адзнаку атрымаў у 70-х гадах Сцяпан Казлоўскі з Міклашоў.

Клуб арлянскіх донараў узначальвае Мікалай Рэнгайла, які аддаў ужо 26,75 літра крыві. Многа крыві аддалі таксама іншыя донары, напрыклад: Уладзімір Кляшчэўскі (17,85), Міхал Чабан (15,45), Віктар Літвінюк (15,15), Пётр Наумчык (14,80), Барбара Савіцкая (8,30).

— Магчымых донараў напэўна ёсць больш, — кажа старшыня клуба і заадно радны Мікалай Рэнгайла, — толькі трэба да іх дайсці, заахвоціць, перакачаць, а нават дапамагчы ім пераадолець псіхічныя бар'еры. Найбольшы поспех даюць індывідуальныя размовы. Здараецца, што донарам становіцца



той, каму яму самому або члену ягонай сям'і жыццё выратавала чужая кроў. Важнае значэнне мае сама арганізацыя аддачы крыві. У вялікіх гарадах такія акцыі праводзяцца без клопатаў. У горшай сітуацыі знаходзяцца вясковыя донары, якім не заўсёды хапае часу паехаць у гарадскую бальніцу аддаць кроў. Каб выйсці донарам насустрач, арганізуем прыезд машыны з адпаведным абсталяваннем і медсясцёр у нашу старую арлянскую амбулаторыю (асяродак здароўя) у раней назначаны тэрмін. Тады сыходзяцца дзесяткі донараў. Належацца ім бясплатныя вітаміны і некаторыя лякарствы, а таксама свабодны ад працы дзень і магчымасць карыстацца медыцынскімі паслугамі па-за чаргой. За аддадзеныя 400 мілілітраў крыві донар атрымоўвае чатыры з паловай шакалада і кубак гарачай кавы. У нас донары карыстаюцца пашанай і сімпатыяй, а мы цешымся, што можам зрабіць карысць для грамадства, адчуваем гуманітарную патрэбу аддаваць сваю кроў.

У ходзе гутаркі з іншымі донарамі я даведаўся, што кожнага года восенню донары атрымоўваюць адзнакі і дыпломы і тады сустракаюцца ў кавярні „У Марка", дзе Польскі чырвоны крыж заказвае сціплы салодкі пачастунак. Такія сустрэчы аб'яднаных высакароднай ідэяй людзей дазваляюць замацаваць сувязі паміж імі і даюць веру ў слушнасць іхных дзеянняў.

Арлянскія донары мараць аб памяшканні для свайго клуба. На жаль, гмінная амбулаторыя далей змяшчаецца ў старым даваенным яўрэйскім будынку. У мінулым годзе ў ім адрамантавалі дах, а сёлета Гмінная ўправа прызначыла ўсяго 2 тысячы зл. на неабходныя папраўкі.

У амбулаторыі амаль 20 гадоў працуе педыятр Аліцыя Шчапаноўская, якая карыстаецца даверам і вялікай сімпатыяй пацыентаў. Дантыст даязджае некалькі разоў у тыдзень, але зубалячэбны кабінет не мае яшчэ адпаведнага абсталявання.

У 1989 г. пачалася будова новай амбулаторыі, але радасць жыхароў хутка абарвалася, бо неўзабаве спыніліся будаўнічыя работы. Паспелі зрабіць толькі гаражы і фундаменты, якія марнеюць ужо восьмы год. Мясцоваму самаўраду, відаць, да лямпачкі здароўе 4-тысячнай грамадскасці гміны.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Фэст у Козліках



*Самадзейніц віншуе віцэ-бурмістр Міраслаў Максімюк.*

27 ліпеня г.г. у Козліках, што ў Заблудаўскай гміне, прайшоў фэст, спалучаны з хрышчэннем мясцовага калектыву, які пару гадоў таму арганізавала Люба Гаўрылюк. Калектыў называецца цяпер „Рэчанька". Фэст арганізавала Управа Заблудаўскай гміны. Артыстам удалых канцэртаў жадалі: віцэ-бурмістр Міраслаў Максімюк, сябры з іншых беларускіх калектываў Беласточчыны і жыхары Козлік. **(рэд.)**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# „Васілёчкі" ў Віцебску

Ад 11 да 14 ліпеня г.г. бельскія „Васілёчкі" адбылі гастрольнае турнэ ў Віцебск, што на Беларусі. Было яно вынікам знаёмства паміж калектывамі „Васілёчкі" і „Цветачкі", якое запусціла карані ў апошнія мінуты „Купалля '96" на Пеўчым полі над возерам Нарач і звязала іх у адзін букет. Пацвярджэннем гэтаму могуць быць канцэрты віцебскіх гасцей у Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы і Дакторцах у сёлетнюю праваднуюнядзелю.

Пасля 700-кіламетровай дажджлівай дарогі святочны Віцебск сустрэў нас сонечным надвор'ем. Горад-пабрацім Зялёнай Гуры, якая засталася ў памяці нашых самадзейнікаў як месца фестываю савецкай песні, цяпер рыхтаваўся да свайго фестывалю — „Славянскага базару". Сярэдневяковы Віцебск красаваўся прыгажосцю помнікаў даўніны і сучасных збудаванняў і толькі сэрца шчымела, слухаючы расказ экскурсавода аб знішчэнні горада падчас II сусветнай вайны ў 95 працэнтах.

Віцябляне святкавалі тры ночы запар, да раніцы. Дзе не ступіш — усюды гулянні, песні і музыка. На ўсіх пляцоўках ідуць канцэрты. На „Славянскі базар" прыехала больш за дзве тысячы выканаўцаў, нават са Злучаных Штатаў Амерыкі. Аграмадны амфітэатр быў перапоўнены, хаця канцэрты паўтараліся пасля поўначы. Не перапалохала аматараў песні нават цана білетаў, якая даходзіла да дзесяці долараў. Лукашэнка таксама наведаў фестываль.

„Васілёчкі" выступалі ў чатырох месцах. Публіка цудоўна ўспрымала кожны наш нумар. Не хапае слоў, каб апісаць гэтую атмасферу. Дабрыня, цяпло, радасць, бурныя апладысменты, бісы, супольнае спяванне і шчырыя пажаданні разлівaліся навокал.

Экскурсія па горадзе дала нам магчымасць пазнаёміцца з мінулым і цяперашнім днём Віцебска. Хаця трываюць канікулы, у школе сустрэлі нас хлебам-соллю дзеткі, якія тут займаюцца ў гуртках зацікаўленняў. Актрыса Віцебскай філармоніі па-мастацку павяла банкет, у якім прымалі ўдзел многія госці, спонсары і дырэкцыя кветкаводчай гаспадаркі, якія дапамагаюць квітнець калектыву „Цветачкі".

У гасцях час бяжыць хутка і неўзабаве трэба было развітвацца, а гэта не так проста...

**Уладзімір Весялоўскі**

# Сыты галоднаму не спагадае

Калі я пісаў рэпліку „Няма з чаго цешыцца" ў адрас Міхася Куптэля на яго публікацыю „Усе наракаюць" („Ніва" н-р 22 ад 1 чэрвеня 1997 г.), мне і ў думцы не мільганула, каб пакрыўдзіць аўтара. А тут у яго чарговай публікацыі „Аб розных поглядах" („Ніва" н-р 29 ад 20 ліпеня 1997 г.) чытаю: „Спадар Сідарук, як і Грыша Мароз, на словы, нават і не крытыкі, а толькі проста сяброўскай заўвагі, што на свет глядзяць песімістычна, проста напалі на мяне з кулакамі слоў". Няўжо ж гэта так, паважаны спадар М. Куптэль? Я, напрыклад, не адчуваю сябе вінаўным перад Вамі, бо ў сапраўднасці не абкідаў Вас ні граззю, ні гадкімі эпітэтамі. Гэта не ў маім стылі гнявіцца за тое, што нехта выяўляе свае думкі наконт маёй карэспандэнцыі. Я сапраўды не з'яўляюся „святой каровай", як гэта пішаце, таму ўсе заўвагі чытачоў аб маёй публіцыстычнай дзейнасці (гэтыя нават крытычныя) успрымаю за чыстую манету. У адгалосках „Няма з чаго цешыцца" я паказаў толькі свае думкі наконт Вашых слоў, якія Вы напісалі ў мой адрас.

Значыцца, у нас розныя погляды на адну і тую ж справу. Ці маем за гэта адзін на аднаго кідацца з кулакамі?

Шчыра прызнаюся, што я ў многім з Вамі не згодны быў і раней, і зараз. Вось, хоць бы гэтыя словы: „Няма агульнай справядлівасці. Агульная справядлівасць гэта абсалют. А Ул. Сідарук спаць не можа, што яе няма. Так ужо свет створаны, што характэрны ён разнастайнасцю".

Паводле Вас няма агульнай справядлівасці, бо так ужо свет створаны? Ці не так? Дык скажыце, калі ласка, мне, звычайнаму пенсіянеру, хто гэты свет стварыў і ягоную сістэму? Стваральнік Нябесны?

Як мне стала вядомым, рэлігія заклікае вернікаў адмовіцца ад насілля і выступае супраць усялякай несправядлівасці. Нават папа ў час сваёй апошняй пілігрымкі ў Польшчу напамінаў пра гэта. Дык чаму ж тады, мы, народ хрысціянскі, не выконваем закону Божага?

І тут я прызнаю рацыю Вашым словам, што такі ўжо „разнастайны" свет настаў. Нам яго не змяніць! Тое, што Вы заклікаеце мяне змагацца са штодзённай несправядлівасцю, бо, мабыць, прыблізіць мая барацьба дасягнуць абсалют, гэта проста утопія. І Вы аб гэтым дасканала ведаеце! Ды навошта мне такія парады?

Далей пішаце так: „Як пішa ў адгалосках шматгадовы карэспандэнт („Ніва" н-р 25), вaюе ён ужо многа гадоў. Ну і добра. Значыць, нядобра, што так доўга трэба змагацца за дабро і каб было яшчэ лепш, а добра таму, што ёсць людзі, якім неабыякава ўсялякая несправядлівасць". Па Вашых словах, паважаны спадар Куптэль, дабро і зло — гэта не раз устаноўлены абсалют, гэта працэс. Скажыце тады, калі ласка, колькі яшчэ простым людзям трэба чакаць, каб дачакацца агульнай справядлівасці ў народзе? Я ў той справе песіміст, і не веру ўжо нікому, што калісьці дасягнем абсалют. Жыццё мяне так навучыла думаць.

Вы пішаце, што кожнаму з нас нялёгка жывецца. Селяніну на вёсцы, і рабочаму ў горадзе. Гэта праўда. Іншая праўда, што Вас гэтая праўда не хвалюе. Канстатую гэтыя словы на аснове цытаты: „Думаю, што няхай ужо так будзе, каб кожны займаўся тым, чым займаецца і любіць рабіць". Значыць, Грыша Мароз няхай займаецца гаспадаркай і думае, як прадаць збожжа і бульбу, каб аплаціліся хоць бы расходы, або ў свабодны час гутарыў з суседам і пісаў свае „смакавітыя" гутаркі ў „Ніву". Сідарук няхай далей ваюе са штодзённай несправядлівасцю. А Вы будзеце займацца сваёй інфарматыкай, бо яе любіце. Як я зразумеў з Вашых абодвух публікацый, Вам, паважаны калега, жывецца без лішніх клопатаў. Маеце добрую пасаду, нядрэнную, мабыць, зарплату. Чым маеце хваляваца?

Праўда, няма жыцця без праблем. Магчыма, і ў Вас знойдзецца лішні клопат. Аднак ён хутка расплывецца ў патоку штодзённых спраў і Вашае жыццё зноў прыходзіць у норму. Таму не разумееце шэрасці спраў і праблем некаторых людзей (прабачце за маю грубасць).

У тым месцы можна прывесці словы народнай прымаўкі: „Сыты галоднаму не спагадае". На маю думку, гэта ў маёй з Вамі справах маецца. Вы аптыміст. Хваліце дэмакратыю, цешыцеся жыццём, спадзеецеся лепшай будучыні. А я — песіміст. Не веру нікому і ні ў што (ніякія цуды), ні ў дэмакратыю, ні ў грамадскую справядлівасць. Асноў для вышэйсказанага ў мяне хоць адбаўляй. Некаторыя з іх прывёў я ў сваіх апошніх публікацыях. Іншых не паказваю, бо трэба было б цэлую кніжку пісаць. Ды каго гэта будзе цікавіць? Лепш няхай застанецца ўсё таямніцай. Так будзе лепш!

**Уладзімір Сідарук**

PS. Спадзяюся, што гэтым разам не будзеце гнявацца за тое, што я паказаў свае думкі на тэму некаторых хвалюючых нас спраў у такім вострым тоне. А, што, мабыць, аказаліся яны крытычнымі, прабачце мне. Я трымаюся прынцыпу думкі Ігнацы Красіцкага: „Prawdziwa cnota krytyk się nie boi". **(ус)**

# Скупая ўлада

Канец ліпеня выклікаў у мяне жаданне напісаць пра паліцыю, а прычыны для гэтага былі дзве: 78 гадавіна з дня заснавання гераічнай паліцыі і выяўленне гэтай апошняй палетка маку (паказала гэту акцыю рэгіянальнае беластоцкае тэлебачанне).

Першая падстава для таго, каб славіць 78 гадавіну паліцыі ёсць такая, што хто як хто, але праваслаўны народ Польшчы павінен сёння не толькі маліцца ў цэрквах, але з набожнай удзячнасцю ставіць помнікі польскай паліцыі, якая паўстала ў 1919 годзе. Дзякуючы яе наш народ адчуў смак свабоды і дэмакратыі, паколькі цёмны, неадукаваны народ не меў паняцця аб санаторыях і дачах адпачынку, якія пабудаваў яму санацыйны ўрад. Паліцыя пабачыла, што ўсё гэта пустуе і пачала сілай запаўняць аграмадныя санаторыі ў Картуз-Бярозе, Брэсце, Беластоку і г.д. Там адпачывалі актыўна пад вокам апекуноў у паліцэйскіх мундзірах: адзін дзень ямы капалі, а другі закопвалі і наадварот. А як кармілі, як кармілі!

За ПНРаўскую міліцыю ніхто не маліўся, бо гэтыя гады ўзялі ды зараз па вайне дапамаглі ліквідаваць войска польскае, якое намагалася ачысціць айчыну ад чужынцаў, паліўшы іх вёскі і народ. Дзе ж за такую дрэнь маліцца, калі яна магла давесці да такога перамяшання крыві, што невядома who is who?

З гэтай нагоды сённяшняя паліцыя (тэлебачанне паказала!) атрымала ўзнагароды — крыжы і павышэнні за тое, што выявіла (гавару аб беластоцкай паліцыі) палетак маку і пакарала злачынца, які хацеў есці булачкі з макам. А дулю з макам, бандыт!

Віншую нашы царкоўныя ўлады з памяццю, асабліва аб паліцыі да 1939 года. Яна нам выдатна паслужыла! Шкада толькі, што адміністрацыйная ўлада аказалася скупой, даючы толькі „бляшкі" і зоркі, а не, як Пілсудскі, беларускія і ўкраінскія гектары. Усходняя сцяна чакае асаднікаў!

**Васіль Петручук**

# Прэзентацыя ў Лондане



*Злева: Мікалай Сенка, Юры Весялкоўскі і Аляксандр Ружанец.*

Юры Весялкоўскі выдаў нядаўна сваю новую мемуарную кніжку „Няясна мроіліся новыя дарогі". Гэтае вельмі цікавае выданне выклікала павышанае зацікаўленне ў асяроддзі лонданскіх беларусаў. У днях 12—20 ліпеня 1997 г. быў я запрошаны, як рэдактар кніжкі, на яе прэзентацыю. У час доўгіх дыскусій і гутарак можна было заўважыць неабходнасць выдавання такога тыпу ўспамінаў. Кніжка Юрыя Весялкоўскага заахвочвае да гэтага і інспіруе. Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе будуць выдадзены чарговыя рэфлексіі беларускай эміграцыі аб мінулым. Пры нагодзе шчыра дзякую спадарам Аляксандру Ружанцу, Юрыю Весялкоўскаму і Мікалаю Сенку за гасціннасць.

**Антось Міранович**

*Фота аўтара*

Адгалоскі

# Абясцэньванне

З рэдакцыйнымі скарачэннямі ў „Ніве” мы, карэспандэнты, сустракаемся вельмі часта, і не было б у гэтым ніякае бяды, бо рэдакцыя, між іншым на тое і ёсць, каб пастулаючыя туды матэрыялы даводзіць да такога выгляду, які зацікавіць чытача. Але рэдакцыя апрацуе артыкул так, што смакавітую праўду выкіне. Напрыклад, у маім тэксце „У чым справа” прапаў сказ аб тым, як я самлеў проста на кучы гнюю ля хлявоў, а дзядуля пагнаў сваіх кароў, не праверыўшы, што са мною сталася. Больш таго, ён дадаткова пакараў унука тым, што і так мусіў я гнаць на луг сваю адну кароўку. А магло б быць інакш.

Рэдакцыя заўсёды просіць пісаць коратка і чалавек стараецца так пісаць, каб было славам цесна, а думкам свабодна. Калісьці я напісаў іранічны артыкул „Новаберазоўцам ура!”, то рэдакцыя так яго апрацавала, што я нічога не зразумеў, а чытачы пачалі называць мяне пілсудчыкам; званілі і абяцалі, што рукі мне не пададуць, а адзін чалавек з Гайнаўкі напісаў у „Ніву” крытычную ў адносінах да мяне адгалоску. Я яму паслаў арыгінал артыкула, але чалавек не адазваўся і я не ведаю чаму.

Акрамя змяншэння вартасці матэрыялу, рэдакцыя дапускае няпраўду і абразу гонару рымскага папы Яна Паула II, які з’яўляецца ўжо не толькі тытулярным святым, але такім святым, як сам Ісус Хрыстос, аб чым я даведаўся ад Тамаша Волка з газеты „Życie”. Няпраўда заключаецца ў тым (тут мушу адкрыцца) што мне прысніўся іменна папа Ян Павел II, а не абы-які святар, што ёсць для святога абразай, бо вядома, што не ўсе святары дастойныя папскага трона. А рэдакцыя напісала, што мне прысніўся святар, бо баялася сказаць, што грэшнаму Петручуку прысніўся святы папа, каб пазбегчы непрыемнага выніку.

Гэта лічу непрыхільнасцю сённяшняга саставу рэдакцыі, бо я ў сваім жыцці двойчы пісаў аб тым, што мне сніўся Хрыстос і „Ніва” друкавала. Думаю, што найлепш было б на месца Астрона паставіць цыганку, якая заўсёды праўду скажа.

Закончу я жартам, але бачу сур’ёзныя недахопы ў разуменні думкі аўтара, нівеліруючы трагічныя моманты.

**Васіль Петручук**

# Парнасік

## Лета

Лета — работы разгар,
Загарэўся смуглява наш твар.
Сонца блішчыць і пячэ;
Праца ад нас ніколі не ўцячэ.
Усё расце і даспявае,
Золак нас з пасцелі падымае
І цэлы дзень мы напружана
на нагах
І часам у хвалянванні не разбіраемся
ў словах.
Работа работу гоніць аж
да змяркання
І кажуць: наша цела даводзіць
да змарнавання.
Хаця ў гэтым старасць вінавата,
Яна не мінае і таго, што жыве
вельмі багата
І цяжка такому пакідаць вялікую
маёмасць,
Бо мае „ходы” і ўсюды *знаёмасць*.
Яго знаюць міністры і дактары,
Якія часта бываюць на яго двары.
Але смерць прыйдзе нечакана;
Яна правіць справядліва
і без абману.
Зробяць прыгожую труну —
домік напаказ
Толькі і выключна адзін раз.
Закапаюць і справе канец:
Вось чалавеча, дзе твой „дварэц”.
Чалавека гісторыя: голы
на свет прыйшоў
І голы (бяда, калі не пакаяўся)
адышоў.
Блізкія паплачуць на пахаванні
А пасля будуць розныя
развяжанні.
А лета жыве па сваіх законах:
Цудоўна, красамоўна, па-Божаму,
без забабонаў.
Яно расце ўгару і мы расцем
І паклон нізкі летку шлем.
Няхай і ў нашым сэрцы летка
разгараецца
І любоў Божая вышэй узнімаецца,
І халодная восень, і зіма —
не страшныя.
Бо любоў ёсць толькі адна — Божая!

**Мікалай Панфілюк**

## Страйк

Каму патрэбны страйк,
Усім трэба знаці,
Тым што на вярхушку
Задніцу хочуць пхаці.
Мачульскі і Сломка,
Каб на іх халера,
Не верце ім людзі
Бо нас яны згубяць.
Гляньце як Кшаклеўскі
Ўсіх нас заклікае,
Сабе на вярхушцы
Ён крэсла падбірае.
Чаму ён не скажа,
Што для нас рабіці,
Каб усім у дзяржаве
Было лепей жыці.
Ці ён разумее,
Як калісь бывала?
Вучыўся задарма,
Яму грошы давалі.
А цяпер ён кажа
За ўсё нам плаціці.
Нам жа вельмі цяжка
І так у дзяржаве жыці.
Мы цяжка працавалі,
Усё ім аддалі,
А на старыя гады
Сабачы грошы дасталі.

**Мікалай Лук’янюк**

## Крык

Крычу!
А маўчанне навокал.
Дрэвы просяць
дапамогі ў людзей.
Бягу!
Ужо позна.
Смертаносны пыл
Задушыў усё жывое.
Плачу!
Падаюць птушкі,
Рыбы і людзі.
Радасць —
Усе прыбіраюць свет,
У выбраныя дні.
Пытаю.
Ці ўдасца ачысціць яго
Ад зброі. І людзей?

**Аўрора**

* * *

У жыцці бываюць гора і цярпенні.
Нашы заняткі — вельмі цяжкі труд.
Але Гасподзь хоча, каб слёзы
мы паўціралі.
Праца — то шчасце, а бяда —
то блуд.
Пакаяцца ніколі не запозна,
Хаця зямным багаццем хтосьці
хоча даражыць.
Хто навярнуўся — гэта вельмі ясна,
Ён будзе жыць, на векі будзе жыць.

**Мар’я Пень**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. невялікі рэстаран з эстрадай, 3. Іаан, візантыйскі храніст (491—578), 5. Эўген, нямецкі камуністычны дзеяч, старшыня Баварскай савецкай рэспублікі (1883—1919), 7. расліна з прыгожай кветкай і з шыпамі, 9. адчуванне ў роце, 10. магутны ваенны карабель, 11. расліна са сцяблом у форме саломіны, 12. верхняя частка галавы, 14. рэпутацыя, аўтарытэт, 16. з рагамі і хвастом, але не кадук, 17. сваяк дыні.

**Вертыкальна:** 1. Алвіс Антоніо, бразільскі паэт (1847—71), 2. аўтаматычны механізм для замыкання і размыкання электраланцуга, 3. Эдуар, французскі мастак (1832—83), 4. гультай, 6. Карлас, венесуэльскі архітэктар (1900—75), 8. жыве з міласціны, 9. адкіды, 11. спараванне самца з самкай для атрымання прыплоду, 13. драпежная рыба з падоўжаным целам, 14. самка паўліна, 15. нырцовая качка. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 25 нумара**

**Гарызантальна:** мароз, летапісец, заказ, лямка, МАЗ, крушына, арэшнік, хан, конус, Львоў, Аляхновіч, аркан.

**Вертыкальна:** трапеза, матуз, засол, Лукашэнка, Цімашэвіч, зарок, Алієў, мах, Зан, Арынока, свята, Ліван.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Самборскай** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Цікавінкі

Самае глыбокае возера на Зямлі — гэта **Байкал**. Сярэдняя яго глыбіня раўняецца 730 метрам, а да найніжэйшага пункту аж 1 620 метраў ад люстра вады. Сумяшчае яно пятую частку ўсёй салодкай вады на нашай планеце. Сваёй паверхнасцю займае звыш 31 тысячу квадратных кіламетраў. Знаходзіцца сярод гор, вышынёю за 2 тысячы метраў, 456 метраў над узроўнем мора. Яго даўжыня — 636 кіламетраў, а шырыня — 79 км. На возеры распаложана некалькі дзесяткаў астравоў, а свае воды ўлівае ў Байкал аж 300 рэк. І толькі адна бярэ свой пачатак — Ангара.

* * *

**Ніягара** — вадаспад на мяжы Злучаных Штатаў Амерыкі і Канады раздзелены пры вусці ракі на дзве часткі — заходнюю шырынёй 800 метраў і ўсходнюю — 300 метраў. У першай вада падае з вышыні 48 м., а ў другой — з 51 м. Скальны парог Ніягары адступае ў сярэднім у год паўтара метра. Гэты прываблівы твор натуры з’яўляецца вялікім атракцыёнам для пяці мільёнаў турыстаў у год.

**Міша**

# Вер — не вер

Ой, Астроне, чаго мне толькі не наснілася ў гэтую ноч! Быццам мае быць атамная вайна. Я ведаю (і ўсе мае супрацоўнікі), што ўжо ляціць на нас ракета з атамнай бомбай. З якой краіны — невядома.

Усім нам на рабоце загадалі падрыхтавацца. А менавіта замкнуцца ў нейкіх спецыяльных памяшканнях — нешта накшталт ні то туалетаў, ні то касметычных пакояў, бо былі яны белыя, прыгожыя. Туды напэўна не пранікла б радыяцыя.

Я бегаю па будынку, не ведаючы, дзе б гэта схавацца. Такіх памяшканняў у будынку няма і, хаця ў кожным нехта схаваўся, няма таўкатні. Але я не магу рашыцца, куды ўвайсці. Нарэшце я знайшоў прыгожы туалетны пакой. Увайшоў туды і глянуў праз шырокія вокны на горад.

А тут... Бацюшкі, якая прыгажосць! І раптам, не чуючы ніякага выбуху бомбы, ані агню, ані атамнага грыба, убачыў, што атамная бомба ўжо зрабіла сваё спустошанне. Гляну ў яшчэ раз праз вакно — і перад маімі вачыма паўстала — на гэты раз — чорная панарама горада. Быццам гэта Менск. Усё спалена, адно тырчаць у некаторых месцах рэшткі дамоў з чырвонай цэглы.

А нам нічога не сталася. Быццам мы — нейкія сузіральнікі, і нас гэтая катастрофа зусім не датычыцца. Ага, выратаваліся мы, паколькі схаваліся ў нейкім замежным пасольстве. Яны ж нетыкальныя...

У суме сон быў прыгожа-страшны. Аднак мяркую, што ўсё роўна чакае мяне нейкая непрыемная справа.

**Тамаш**

Тамаш! Сапраўды, вайна, спусташэнні няўхільна прадвяшчаюць нейкую сварку, непаразуменні, вайну, адным словам. А ўсё ж такі ты ад гэтай бомбы не пацярпеў, ды твае супрацоўнікі — таксама. Вы засталіся як бы ўбаку ад катастрофы, выратаваліся, бо схаваліся добра і надзейна.

Дык мо і ў жыцці так яно акажацца, што з вялікай навальніцы будзе малы дождж...

**Астрон**


# Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## На прастор!

Табе, о мудрэйшы, мы песні
складаем,
Мацнейшы наш бацька за ўсіх
мацакоў.

Цябе мы ўхваляем, цябе
праслаўляем,
Настаўнік і наш правадыр
Лупцакоў!

Улады ў цябе, як ніколі, даволі,
Хапіла б яе на дваіх ці траіх.
Ты сёння, наш бацька, свабодны
і вольны
У думках сваіх і ва ўчынках сваіх.

Ацiхлі, хто часам чыніў перашкоды
I смецце выносіў з хаціны на двор.
Каб ззаду пакінуць нястачы, нягоды,
Выводзь усіх нас на шырокі прастор!

**Барыс Анікееў**
*„Вожык"*

## Смейся з Камейшам

Выслоўе — „Чым багаты, тым і рады" час паціху перайначвае. На сёння б яно павінна гучаць так: „Хто багаты, таму й рады".

* * *

Будаўнікі на рыштаваннях высотнага сталічнага гмаху так гнулі матам, аж гнулася арматура.

* * *

Юбіляра цалавалі доўга, цэлы вечар, але чамусьці як нябожчыка, баючыся.

* * *

Вясковец пра маладую, цяпер ужо гарадскую, зямлячку ў міні-спадніцы:

— Глянь ты, агаліла праўды аж па самую разетку!

* * *

„Чалавек ён быў лаяльны, — казаў мой знаёмы пра свайго бацьку. — Надта ўжо часта лаяў і маці, і мяне".

**Казімір Камейша**
*(„Маладосць")*




*Мал. Алега Карповіча*

## Напякло

Напалíўшыся на пляжы, Буцюгін ляніва накіраваўся да кабінкі для пераапранання. Смела ступіўшы ў яе, там Буцюгін убачыў голую сімпатычную дзяўчыну...

Разгублена замёршы, ён упёрся позіркам у шыкарныя грудзі дамы.

— Ну што, так і будзеш стаяць? — бессаромна ўзяўшыся пад бокі, спыталася дзяўчына. Паматаўшы адмоўна галавой, Буцюгін узяў у кожную руку па паўшар'ю.

— Ну, мужык, ты даеш! — здзіўлена выдыхнула дзяўчына і лёгенька стукнула па руках мужчыны.

Гэта ўключыла нешта ў Буцюгіна і ён стаў пяшчотна масажыраваць ёй грудзі.

— Мужык, а, мужык, — спалохана спытала дзяўчына, — можа табе галаву напякло?

— Я ажанюся з табою... — прабубніў Буцюгін. — Калі гэта трэба...

— А куды майго мужа дзенем? — ухмыльнулася дзяўчына.

— Усынаўлю, — не здаваўся сумленны кавалер.

— У мяне трое дзяцей! — зноў хмыкнула дзяўчына.

— Што?! — апрытомнеў Буцюгін і адразу забалбатаў:

— Ой, прабачце! Напякло галаву! Проста — такі нейкая млявасць навалілася, што трызню нейкай бязглуздзіцай!

— Чаму ж?! Вы зрабілі вельмі і вельмі разумную прапанову, — супакоіла яго дзяўчына.

— Ой, — піскліва ўскрыкнуў Буцюгін і стрымгалоў кінуўся з кабінкі.

— Каханы! — зарагатала ўслед дзяўчына.

Аглушаны Буцюгін скочыў у ваду і стаў імкліва пераплываць возера. Дадому ён вярнуўся ў адных плаўках.

**Амір Даутаў**
*Пераклаў з рускай*
*Валеры Бабей*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Калі гэтае ваша дзіця стане падчас сеанса плакаць, вы будзеце вымушаны пакінуць кіназалу, — папярэджвае білецёрка маладое сужонства і дабаўляе: — Калі не аглянеце цэлага фільма, звернем грошы.

Праз гадзіну жонка пытае мужа:

— Падабаецца табе гэты фільм?

— Гэта толькі страта часу, — адказвае муж.

— Дык можа разбудзім дзіця і пойдзем?..

* * *

Бацька пяці дачок сядзіць у чакальні радзільнага дома, у якім чарговы раз родзіць яго жонка. З-за дзвярэй высоўваецца акушэрка. Нецярплівы пытае:

— Сын?!

— Трэці па чарзе — так...

* * *

— Пасварыўся з жонкаю? — пытае бацька сына. — Тры дні не чую, каб вы з сабою гаварылі.

— Не, татка, не пасварыліся мы, толькі няма пра што гаварыць: яна ведае сваё, а я сваё.

* * *

Іван пад поўнач сустракае на вуліцы малога хлопчыка:

— Колькі табе гадоў? — цікавіцца.

— Дзесяць.

— Дык табе трэба ўжо быць дома!

— Яшчэ не, бо я нежанаты.

* * *

— Ад каго маеш гэтае шыншылавае футра?

— Ад Андрэя.

— А гэты прыгожы пярсцёнак?

— Ад Марка.

— А ад каго дзіця ў калясцы?

— Бусел прынёс.

* * *

Жанчын можна прыраўнаваць да кантынентаў:

Да 18-ці гадоў — дзікая, як Азія.

18—30 гадоў — гарачая, як Афрыка.

30—40 гадоў — адкрытая для ўсіх, як Амерыка.

40—50 гадоў — з'езджаная, як Еўропа.

Больш 50-ці гадоў — халодная, як Антарктыда.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое, дарагое Сэрцайка! Што рабіць, я перастала верыць людзям. І хлопцам, і дзяўчатам. Уяві сабе, як выйшла смешна! Вядома, мне было не да смеху, але сітуацыя перасягнула не адну камедыю.

А было так. Я паўгода таму пазнаёмілася з прыгожым хлопцам. Спачатку ён быў мне толькі сябрам, але праз месяц я ўжо цвёрда ведала, што закахалася ў яго без памяці. З кожным днём ён падабаўся мне ўсё больш, а ад часу, калі я аддалася яму, думкі пра яго не выходзілі з маёй галавы. Я не была дзеўкай, калі лёс спалучыў мяне з гэтым хлопцам, не быў ён у мяне першы, але тое, што я перажыла з ім, немагчыма было параўнаць з нічым, што я бачыла ў сваім маладым, дваццацігадовым жыцці.

Вядома, пра ўсё гэта ведала мая сяброўка, перад якой я не мела ніякіх таямніц. Я ёй шчыра расказвала пра мае пачуцці, бо была ўпэўнена, што і хлопец за мною свету не бачыць. Я думала, што мы з ім — неразлучная пара і толькі ён стане неўзабаве маім мужам. Кожная хвіліна, калі я не была з ім (ішла на выклады ці рыхтавалася да практычных заняткаў у хаце), была для мяне катаргай. Але што рабіць, калі бацькі заганялі мяне да навукі...

Мой хлопец ужо працаваў, і вечары заўсёды меў свабодныя. Я была цвёрда ўпэўнена, што калі я вучуся, ён цярпліва чакае мяне і сумуе па мне так моцна, як і я па ім. На жаль, усё выглядала інакш. Мой хлопец часу не траціў, а высвятлілася справа зусім выпадкова.

Мая сардэчная сяброўка, якой я пра ўсё расказвала і якая ведала майго хлопца, жыла на кватэры з дзяўчынай, якая ўжо працавала. Яна была значна старэйшая за нас, больш вопытная, ды і мела грошай пад дастаткам. Аднойчы яна сказала маёй сяброўцы: „Сёння прадстаўлю табе майго новага хлопца! Будзе баль, нікуды не выходзь!"

Мая сяброўка і так нікуды не выходзіла, бо ёй трэба было, як і мне, рыхтавацца да экзаменаў, і, вядома, яна засталася дома, хаця ведала, што тое запрашэнне „на баль" было чыста фармальнае, бо яе сяброўка хацела пахваліцца хлопцам і, праўдападобна, перапаспаць з ім у сваім пакоі. Навошта ж яна была ім патрэбная?!

Хлопец прыйшоў а дамоўленай гадзіне. Мая сяброўка чула, як адчынялі яму дзверы, а пасля былі даволі гучныя пацалункі на прывітанне. Яе суседка правяла хлопца ў свой пакой. Праз паўгадзіны і яе запрасілі туды. Што адбывалася раней — было невядома. На стале ўсё стаяла някранутае: гарэлка, чорная ікра, ласось.

Калі мая сяброўка падняла вочы на хлопца, ёй стала, як яна сказала, моташна. Гэта быў мой хлопец! Яна бачыла, што і яму няёмка. Ён ужо ведаў: усё будзе перададзена мне. Але сядзеў далей і ўплятаў смакоцці, быццам бы нічога не здарылася. Нібы ежа была для яго найважнейшай справай у жыцці і толькі дзеля гэтага ён прыйшоў наведаць дзяўчыну. Цікава, а што яны рабілі дагэтуль?! Пэўна, вытрымаць ад наплыву пачуццяў не маглі...

У гэты момант мая сардэчная сяброўка не вытрымала. Перапрасіла і выйшла, як сказала, на момант, а ў той час пазваніла мне: „Калі можаш, прыедзь да мяне як мага хутчэй! Вазьмі таксоўку. Ты мне вельмі-вельмі патрэбная".

Я падумала, што мо яна захварэла, ці проста слаба адчула сябе, бо перапрацавалася перад экзаменам. Доўга не думаючы, я схапіла таксі і прыехала да яе. Не прыйшло мне тады ў галаву, што магла б яна (калі б захварэла) выклікаць не мяне, а хуткую дапамогу.

Сяброўка сустрэла мяне зусім здаровая, але нейкая маркотная. „Хадзі!" — адно сказала мне і павяла ў суседні пакой. Калі я ўбачыла ўсё ўласнымі вачыма, сэрца маё пачало біць як шалёнае. „Добры дзень, каханы!" — толькі сказала я. Гаспадыня не разумела ў чым справа, а іншыя ўсё ведалі. Мой хлопец сядзеў і ўсміхаўся, але жаласлівая была гэта ўсмешка.

Мы з сяброўкай выйшлі з гэтага пакоя, і я расплакалася, як дзіця. Што рабіць, Сэрцайка? Ён жа напэўна мне здрадзіў...

**Крыся**

Крыся! Так ці інакш, ён — паскуда. Нават тады, калі прыйшоў да гэтай дзяўчыны толькі дзеля таго, каб наесціся. Закаханы хлопец ніколі не дазволіць сабе на тое, каб праводзіць час з іншымі дзяўчатамі тады, калі яго дзяўчына рыхтуецца да экзаменаў.

Мяркую, што ён гэта рабіў не раз і не з адной, ды толькі на гэты раз не выйшла ўсё шыта-крыта. Твая сяброўка перашкодзіла ў гэтым і зрабіла, бадай, добра. Навошта табе такі вархляк?! Ці мала на свеце хлопцаў...

**Сэрцайка**

PS. Выпадковае з'яўляецца адной з форм неабходнага! Так сцвярджаў, здаецца, Феербах. **С.**